13 красавіка 2018 | № 13 (576)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144





Як серыял зрынуў Чаўшэску

Стар. 8



# У каго «савецкая ментальнасць»?

## Вельмі цікава, як кіраўніцтва краіны ўспрымае сваіх грамадзян



Сяргей ПУЛЬША

Я заўсёды злуюся, калі кажуць пра «ментальнасць». І адразу адказваю, што слова «ментальнасць» утворана ад вульгарызму «мент». Гэтую маю думку днямі пацвердзіў міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей.

Яго інтэрв'ю тэлеканалу «Еўраньюс» разарвалі на цытаты. І, падобна, найгоршае ў ім — што чыноўнік такога рангу заяўляе: «Доўгі час мы жылі ў Савецкім Саюзе, у савецкую эпоху. Шмат у каго ў нашай краіне ўсё яшчэ захоўваецца савецкая ментальнасць (...) Нашы людзі прывыклі жыць ва ўмовах, калі дзяржава клапоціцца пра іх. Яны заўсёды ведалі, што могуць разлічваць на дзяржаву. Гэтая ментальнасць усё яшчэ ўплывае на сітуацыю ў нашай краіне».

Вось у гэтым і выяўляецца «ментальнасць» ад слова «мент», — калі «людзі прывыклі жыць ва ўмовах, калі дзяржава клапоціцца пра іх». Пры гэтым не канкрэтызуецца, што ж такое гэты «клопат дзяржавы»?

Можа, «бясплатная медыцына» з аграмаднымі чэргамі ў паліклініках? Дзіцячыя садкі, дзе бацькі не могуць дамагчыся беларускамоўных групаў? «Бясплатная адукацыя», калі трэба плаціць за карыстанне падручнікамі ў школах? Альбо адпрацаваць два гады па размеркаванні, кампенсуючы «бясплатную вышэйшую адукацыю»?

А можа, у дэкрэце пра дармаедаў — як мінулым, так і абноўленым? У падвышэнні пенсійнага ўзросту?

Тое, што міністр разумее пад «клопатам дзяржавы», — насамрэч не клопат. Гэта кантроль. Дзяржава імкнецца менавіта кантраляваць жыццё грамадства і грамадзян. І яна ўсімі магчымымі сродкамі прадукуе «савецкую ментальнасць», калі кантроль быў хіба не асноўнай часткай сістэмы.

Чаму ўзнікла размеркаванне? Не з-за клопату пра «гарантаванае першае працоўнае месца». Было багата выпадкаў, калі студэнты самастойна знаходзілі працоўныя месцы і прыносілі заяўкі на працаўладкаванне, — а іх размяркоўвалі зусім у іншыя месцы (мы пра гэта шмат пісалі ў рубрыцы «Я працую па размеркаванні»).

З чаго ўзнік дэкрэт пра дармаедаў? З імкнення кантраляваць працоўную сілу. З таго ж шэрагу — кароткатэрміновыя працоўныя кантракты на дзяржпрадпрыемствах: каб чалавека было лёгка шантажаваць звальненнем.

Гэта і ёсць «савецкая ментальнасць» ад слова «мент». Тое, што «наверсе» бачыцца клопатам, насамрэч — кантроль пад выглядам клопату.

З усяго афіцыёзу нам кажуць: гэта Лукашэнка выплачвае пенсіі і заробкі — хай невялічкія, але рэгулярна. Гэта дзяржава клапоціцца пра мацярынства і дзяцінства, гэта дзякуючы ўладзе ў нас ёсць школы і бальніцы. І зразумела, чаму нам навязваецца такі пункт гледжання. Так насельніцтва прасцей кантраляваць. Так дзяржчыноўнікі апраўдваюць сваё існаванне, сваю важнасць і патрэбнасць.

Каб мы не думалі, што можа (і павінна) быць лепш. Каб задаволіліся тым малым, што маем. «Савецкую ментальнасць» нам насаджваюць ці не гвалтоўна ўжо больш за чвэрць стагоддзя пасля скону СССР. Каб усе былі аднолькавыя і паслухмяныя. Каб не «жадалі дзіўнага», не высоўваліся і не патрабавалі лепшага, іншага, не турбавалі ўлады, якім і так утульна.




У прынцыпе, я разумею, чаму Макей кажа пра «савецкую ментальнасць» і «клопат дзяржавы». Ён шчыра верыць у такі малюнак свету, які абумоўлены яго бачаннем — бачаннем з вакна службовага лімузіна. Ён упэўнены, што і яго праца — гэта клопат пра людзей, якія нібыта загразлі ў «савецкай ментальнасці».

Каб змяніць гэты пункт гледжання, яму трэба выйсці са сваёй «зоны камфорту». Трэба апрануць драныя джынсы, швэдар і выправіцца на Камароўскі рынак альбо на рынак у Ждановічах. Стаць з куфлем піва ля чабурэчнай альбо шаўрмы. І паслухаць, што кажуць людзі.

Менавіта там яго чакае сюрпрыз: ён зможа пабачыць, што ніякай «савецкай ментальнасці» ў беларусаў не засталося. Што людзі на дзяржаву ўжо даўно не разлічваюць. Што ўвесь той «клопат дзяржавы» — не тое што бескарысны, а нават шкодны. Што людзі гэткага клопату наеліся па самае не магу і гатовыя яго змяніць на што заўгодна.

Але як потым працаваць з гэтым веданнем? Хіба што сыходзіць у адстаўку.

І яшчэ адна думка, выказаная спадаром Макеем: «На мой погляд, і гэта не толькі маё меркаванне, забяспечыць поўную рэалізацыю правоў чалавека можна толькі ў эканамічна развітым грамадстве, якое дасягнула пэўнага ўзроўню эканамічнага, палітычнага і сацыяльнага развіцця». Так міністр замежных спраў апраўдвае і нашу «стабільнасць», і (ускосна) рэпрэсіі іншадумцаў.

Насамрэч, гэта старая спрэчка пачатку 1990-х гадоў: «Што важней: мова ці кілбаса?» Грамадзянскія свабоды ці эканамічны дабрабыт? Правы чалавека ці заможнае грамадства?

На пытанне адказала сама постсавецкая гісторыя Беларусі. Высветлілася, што эканамічны дабрабыт немагчымы без эканамічных правоў, а эканамічныя правы — складнік правоў грамадзянскіх. Фігуральна — «будзе мова, будзе і кілбаса». Забяспечыць эканамічна развітае грамадства можна толькі пры рэалізацыі правоў чалавека.

А для гэтага трэба найперш адмовіцца ад усялякіх думак пра «савецкую ментальнасць».

13 красавіка 2018 | № 13 (576) Новы Час

# «Загінуў смерцю мужных...», а магілу — знесці!

Алесь КІРКЕВІЧ

**У авангардзе барацьбы з памяццю пра «подзвіг савецкага народа» апынуліся камунальнікі! Менавіта дзяржструктуры збіраюцца зносіць помнікі ўдзельнікам Другой сусветнай вайны ў Мінску. Не верыце?..**

Дзясяткі магілаў на Вайсковых могілках у Мінску сёння маюць адмысловыя пазнакі. Гэта альбо белая цыдулка, якая нагадвае, што магілу трэба прыбраць, ці яе лёс будзе вырашаць Спецкамбінат камунальна-побытавага абслугоўвання. Альбо — жоўтая фарба, якой пазначаныя помнікі, агароджы ды некаторыя дрэвы. Жоўтая пляма — знак бяды і міжвольная асацыяцыя з жоўтымі зоркамі Давіда ў часы Другой сусветнай вайны...

Паводле старшыні Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антона Астаповіча, Вайсковыя могілкі ў Мінску маюць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. І падобныя пазнакі пра імаверны знос — парушэнне заканадаўства.

«Спецкамбінат КПА парушае заканадаўства, бо ўсе працы на тэрыторыі гэтых могілак павінны ўзгадняцца з Міністэрствам культуры, — тлумачыць Астаповіч. — Трэба пісаць у пракуратуру — і таблічкі знікнуць! На жаль, ані я, ані актывісты Таварыства, не могуць грудзямі закрыць усе помнікі ў Беларусі».

Паводле Астаповіча, падобная сітуацыя была і на мінскіх Кальварыйскіх могілках. Звароты ў пракуратуру дапамаглі, зносу ўдалося пазбегнуць.

Цікава, што апроч дзясяткаў магілаў шараговых мінчукоў пад знос трапілі таксама пахаванні савецкіх вайскоўцаў — удзельнікаў Другой сусветнай. Вось магіла Міхаіла Ліўшыца, які загінуў 7 мая 1944-га — пад знос! Фёдар Вайткевіч загінуў у лютым 45-га, але жонка прывезла цела ў Беларусь, каб пахаваць «на роднай зямлі», як кажа надпіс на помніку, — пад знос! Гвардыі маёр Шаўчэнка «загінуў смерцю мужных у 1945-м на заходнім беразе Одэра» — пад знос!..

Большасць цыдулак з папярэджаннямі датаваныя жніўнем 2015-га, то бок зносіць магілы можна было ўжо ў жніўні 2017-га. Пахаванні пакуль стаяць, але самі пазнакі ды гурба бітых старых надмагілляў і агароджаў пад адным з дрэваў нагадваюць пра лёс помнікаў у выпадку, калі камунальнікам не нагадаць пра сілу закона.

# Чаго беларусам чакаць ад падзення расійскага рубля

**ЗША ўвялі новыя эканамічныя санкцыі супраць Расіі, і гэта імгненна паўплывала на курс расійскага рубля. Як гэта адаб'ецца на беларускай эканоміцы і шараговых беларусах, тлумачыць старшы аналітык кампаніі «Альпары» Вадзім Іосуб.**

### Уплыў на курс беларускага рубля

Моцнае падзенне расійскага рубля прыводзіць да стандартнай і імгненнай рэакцыі беларускага валютнага рынка — долар і еўра адносна беларускага рубля растуць, а расійскі рубель падае. Так было ўчора, і такую ж карціну мы назіраем падчас сённяшніх таргоў. З пункту гледжання валютнага кошыка беларускі рубель умацоўваецца. А ўсё таму, што расійскі рубель у валютным кошыку займае 50%, і падзенне расійскага рубля да беларускага пераважвае рост долара і еўра.

### На беларускую эканоміку

Калі падзенне расійскага рубля адносна беларускага працягнецца, пацерпіць і беларуская эканоміка, і беларускі валютны рынак. У Расію ідзе вялікая частка беларускага экспарту, ад «малочкі» да самазвалаў. Падзенне расійскага рубля адносна беларускага робіць беларускую прадукцыю на расійскім рынку больш дарагой і менш канкурэнтаздольнай.

Але калі ў найбліжэйшы час падзенне расійскага рубля спыніцца, глабальных наступстваў для беларускай эканомікі можа і не быць.

### Ці выгадна гэта шараговым беларусам

Калі падзенне курса расійскага рубля працягнецца, можа ўзнікнуць сітуацыя, аналагічная той, што была ў 2014 годзе, калі беларусы паехалі ў Расію па «танныя» аўтамабілі і электратэхніку. Праўда, у 2014 годзе гэтае паломніцтва беларусаў у Расію пачалося пасля таго, як расійскі рубель упаў адносна беларускага больш як на 30%. Цяпер жа, па выніку двух дзён, расійскі рубель адносна беларускага ўпаў на 4%.

### У якой валюце лепш зберагаць

Пасля таго, як у 2014 годзе Расія зрабілася аб'ектам санкцый, стала зразумела, што расійская валюта — рызыкоўны аб'ект для захоўвання зберажэнняў. Сёння мы маем дадатковае пацвярджэнне гэтаму. Таму дэпазіт лепш захоўваць у беларускіх рублях, а кэш дзяліць паміж доларам і еўра.

### Ці чакаць далейшага падзення

Цалкам імаверна, што сёння падзенне расійскага рубля спыніцца. І ўжо ад заўтра курс расійскага рубля можа стабілізавацца — як да долара і еўра, так і да беларускага рубля. Але ёсць і пэўная нявызначанасць з прычыны санкцый: вядома, што ўжо актыўна абмяркоўваюцца новыя санкцыі праз датычнасць Расіі да хімічных атак у Сірыі. І будучыня расійскага рубля залежыць ад узроўню санкцый — будуць яны «плюшавымі» ці такімі ж эфектыўнымі, як пятнічныя.

### Ці будзе Нацбанк рэгуляваць курсы

Гэта малаімаверна. У нас «плаваючы» курс, і асабліваць яго ў тым, што рынак сам сябе збалансуе і скарэктуе. Калі расійскі рубель рэзка абваліцца адносна беларускага, беларусы павялічаць попыт на валюту дзеля пакупак у Расіі. Паступленні валюты з Расіі захаваюцца, і ўжо беларускі рубель пачне падаць адносна расійскага, выраўнуецца з ім. У той жа час працягнецца рост курсаў долара і еўра. Тое ж было на мяжы 2014 і 2015 гадоў.

**Паводле euroradio.fm**

# На вуліцах Слуцка з'явіліся таксоўкі з беларускім каларытам

Зінаіда ЦІМОШАК

**Па вуліцах Слуцка ўжо другі тыдзень бегаюць сімпатычныя таксоўкі «Калі ласка» з беларускім арнаментам.**




Галаўное прадпрыемства новай службы таксі знаходзіцца ў Баранавічах. Падобныя таксоўкі ўжо каля года працуюць у Баранавічах і Пінску. Стваральнік службы Актай Гашымаў вядомы ў Баранавічах як патрыёт Беларусі і патрабавальны менеджар.

Як паведаміў намеснік дырэктара службы таксовак «Калі ласка» Валянцін Панятоўскі, зараз у Слуцку працуюць 6 такіх таксовак. Сам намеснік дырэктара з прыязнасцю ставіцца да беларускай мовы і зацікаўлены ў пашырэнні беларускамоўнага асяроддзя ў Слуцку.

Уладзімір — кіроўца адной з таксовак, у фірме «Калі ласка» працуе толькі другі дзень. Ён распавёў, што случчане яшчэ не прызвычаіліся да расфарбоўкі таксоўкі і вельмі дзівяцца знешняму выгляду аўтамабіля.

— Людзі дзеляцца сваімі ўражаннямі, у асноўным, радуюцца такой незвычайнасці таксоўкі, гавораць, што «ўжо даўно час беларусам мець што-небудзь беларускае», — гаворыць кіроўца.

Уладзімір адзначае высокія патрабаванні кіраўніцтва да працы кіроўцы, культуры абслугоўвання і чысціні ў салоне аўтамабіля.

Жыхары горада, з якімі ўдалося паразмаўляць на тэму з'яўлення новых таксовак, у большасці сваёй пазітыўна ставяцца да афарбоўкі аўто ў нацыянальным стылі. Найбольшую радасць, зразумела, праяўляюць свядомыя беларусы. Мяне ж цікавілі выказванні выпадковых случчан.

З 7 чалавек, з якімі здолела паразмаўляць, пяцёра ўхвалілі новае «адзенне» таксовак, адна жыхарка была супраць пашырэння беларускасці, а яшчэ аднаму случчаніну ўсё абыякава. Пры гэтым жанчына глыбока пенсійнага ўзросту нават з нянавісцю паставілася не толькі да нацыянальнага каларыту таксовак, але і ўвогуле да саміх таксовак.

«Разрисовали новые машины, наверное, у них много денег, будут воздействовать на умы людей. Я на такси не езжу, у меня на это нет денег, а белорусская мова мне глубоко противна. Не люблю и людей, которые на ней говорят», — вось так выказала пенсіянерка свае адносіны да тэмы размовы.

Яе словы не спадабаліся нават суседзям. 46-гадовы Сяргей заявіў, што ён — беларус і гэтым ганарыцца. У сярэдняй школе меў «тройку» па беларускай мове, але цяпер па-новаму вучыцца размаўляць.

Сяргей не задаволены тым, што зараз паўсюдна адбываецца пашырэнне сферы ўжывання кітайскай мовы, але толькі не беларускай.

— У банкамаце можна выканаць аперацыю на кітайскай мове, у аэрапорце — пачытаць аб'явы на табло па-кітайску, а дзе ж наша беларуская мова?

Мужчына гаворыць, што зацікаўлены ў пашырэнні беларускасці і ў развіцці беларускай эканомікі, каб можна было ганарыцца краінай не толькі ў тэорыі, але і на практыцы. Дзеля гэтага патрэбны і высокі ўзровень жыцця, і нацыянальная свядомасць. Сяргей назваў нацыянальныя таксоўкі «ластаўкамі, якія прыляцелі ў краіну сярод зімы».

# Вольга Чайчыц: «Прыгразілі сілай прывесці ў суд і асудзіць»

**Адразу чатыры суды над журналістамі «Белсата» Вольгай Чайчыц, Андрусём Козелам, Аляксандрам Баразенкам і Ганнай Аземшай былі прызначаны на 10 красавіка. На іх складзены пратаколы паводле артыкула 22.9 КаАП Рэспублікі Беларусь (парушэнне заканадаўства аб СМІ).**

Як паведамляе «Белсат», 10 красавіка адбыліся толькі два судовыя пасяджэнні — над Аляксандрам Баразенкам і Ганнай Аземшай. Працэс адбыўся завочна, бо журналісты ў суд не з'явіліся. Праз тэлефон вынікі разгляду чарговай справы над імі працаўнікі суду гаварыць адмовіліся. Паведамілі, што дашлюць поштай.

Паводле інфармацыі Беларускай асацыяцыі журналістаў, гэта ўжо трэці суд над Баразенкам і Аземшай ад пачатку месяца (пасяджэнні ўжо адбыліся 2 і 5 красавіка). Кожны раз падставай для праследу была праца журналістаў па асвятленні затрымання і суда над Андрусём Козелам.

Працэс над Андрусём Козелам і Вольгай Чайчыц адклалі. Дакладнай даты новага пасяджэння няма, затое журналістаў папярэдзілі, што ў выпадку нез'яўлення ў суд, іх туды даставяць прымусова. Падставай для складання пратаколаў стала праца журналістаў над сюжэтам пра датэрміновае галасаванне на мясцовых выбарах.

Вольга Чайчыц, каментуючы гэтую сітуацыю, адзначае:

«Не бачу сэнсу ездзіць на суды, бо ніякія нашы аргументы ніколі ніхто не слухае. Да таго ж яны прызначылі пасяджэнне на час, калі ў Андруся дзень народзінаў. Калі мы не паехалі і патэлефанавалі даведацца пра вынікі, на нас пачалі крычаць, што мы «праз нейкае свята» не хацелі прыехаць. Сказалі, што наступным разам прывядуць нас сілай і асудзяць».

Акрамя таго, супраць журналістаў распачатая адміністрацыйная справа ў Карэліцкім раёне за сюжэт пра грамадзяніна Туркменістана Рустама Бабакулыева, які скардзіцца на рабскую працу ў беларускім калгасе. Дата суду па гэтай справе пакуль не вядомая.

З пачатку года агульная сума штрафаў паводле артыкула 22.9 КаАП Рэспублікі Беларусь (парушэнне заканадаўства аб СМІ) па стане на 11 красавіка складае 859 базавых велічыняў, альбо 8594 еўра.

**spring96.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Дэвальвацыя навечна?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Спецыялісты па піяр-тэхналогіях выдатна ведаюць, наколькі важна абраць зручны час для піяр-кампаніі. Не менш выдатна яны ведаюць і пра форс-мажоры. Гэта калі ты пачынаеш кампанію, а ў свеце здараецца такое, што зводзіць усе твае намаганні на нішто: грамадства заклапочваецца іншымі праблемамі. Нешта падобнае здарылася з Аляксандрам Рыгоравічам.**

Падаецца, прэзідэнцкія выбары ўсё ж пройдуць у 2019-м. Занадта багата апошнім часам беларускі правадыр дае інфармацыйных нагодаў. То заявіць пра неабходнасць зменаў у Канстытуцыю, то пачне разважаць пра перадачу паўнамоцтваў парламенту, то папраўкі ў закон пра СМІ падрыхтуюць... На гэтым тыдні Лукашэнка сустрэўся з прадстаўнікамі дзяржаўных СМІ.

Прычым, даволі цікава сустрэўся — да яго візіту быў абвешчаны збор пытанняў да кіраўніка краіны праз інтэрнэт. Планавалася (і адбылося), што на некаторыя з іх ён адказа. Гэта даволі ўдалы сродак надаць падзеі дадатковую ўвагу.

Чаму я лічу гэта піяр-кампаніяй? У такой сустрэчы асаблівай неабходнасці не было. У Аляксандра Рыгоравіча ёсць графік выступаў, і для таго, каб сказаць нешта важнае, ён мог бы скарыстацца сваім пасланнем парламенту і народу, якое павінна адбыцца 24 красавіка. Таму дадатковая прэс-канферэнцыя, хай і «для сваіх» — дзіўнаватая. Нібыта ён вырашыў праінспектаваць тых, хто знаходзіцца на пярэднім краі ідэалагічнай барацьбы... А чым можа быць выкліканая такая інспекцыя? Хіба што падрыхтоўкай да выбараў.

Так, Лукашэнка на сустрэчы нагаварыў шмат цікавага. Але збольшага яго ніхто не слухаў, бо здарыўся той самы сусветны форс-мажор. У выніку ўвядзення ў дзеянне пакета амерыканскіх санкцый супраць Расіі затрэсла расійскі рубель. Услед за ім абрынулася і беларуская валюта — прычым, ледзьве не рэкордна. З 1,95 рубля за долар наш «зайчык» прасеў да 2 рублёў і 3 капеек.

Расійскі рубель за два дні знізіўся на 10%, з 58 рублёў за долар ён скаціўся да 63 з капейкамі, і падзенне працягваецца. Індэкс Маскоўскай біржы (былая ММВБ) толькі ў панядзелак апусціўся больш чым на 9%, а індэкс РТС — амаль на 11%. Абвал па акцыях Ашчадбанка і ВТБ на працягу дня перавысіў 15%. Сукупная капіталізацыя 50 найбагацейшых людзей Расіі за дзень скарацілася больш чым на $11,7 мільярда, па дадзеных часопіса «Forbes», які разлічваецца ў рэжыме рэальнага часу. Больш за ўсіх страціў Алег Дзерыпаска, чые капіталы на фоне рэзкага зніжэння кошту папер Rusal і En+ Group на 1,3 мільярда долараў. Віктар Вексельберг страціў 908 мільёнаў долараў, Сулейман Керымаў — 813 мільёнаў. Гэтыя людзі непасрэдна ўнесеныя ў санкцыйны спіс Мінфіну ЗША як «алігархі», якія «адыгрываюць ключавую ролю ў падтрымцы зламысных дзеянняў Расіі», а таму не павінны быць «ізаляваны ад наступстваў дэстабілізуючай дзейнасці» расійскіх уладаў.

Яны пацягнулі за сабою асноўнага ўладальніка «Нарыльскага нікелю» (кошт акцыяў 9 красавіка зваліўся больш чым на 15%) Уладзіміра Патаніна, якога, у адрозненне ад першых трох, Мінфін ЗША пакуль у санкцыйны спіс не ўключыў.

І гэты амерыканскі ўдар па алігархах — не апошні. Як паведамляецца, Кангрэс ЗША пачаў падрыхтоўку новага пакета фінансавых санкцый супраць Расіі як адказ на атручванне ў Солсберы экс-палкоўніка ГРУ Сяргея Скрыпаля. Новы законапраект патрабуе поўнай забароны для амерыканскіх фізічных і юрыдычных асоб на любыя аперацыі з расійскім дзярждоўгам, а таксама на аперацыі з сямі расійскімі дзяржбанкамі: Ашчадбанкам, ВТБ, Газпромбанкам, Банкам Масквы, Рассельгасбанкам, Промсвязьбанкам і ВЭБ. Што, зразумела, не дадае стабільнасці расійскай валюце.

І замест таго, каб уважліва слухаць Аляксандра Рыгоравіча, беларусы ў чарговы раз задаліся пытаннем: ці чакаць у Сінявокай дэвальвацыю? Бо мы, як заўсёды, апынуліся закладнікамі завязкі большасці свайго гандлю на ўсходнюю суседку.

Падзенне расійскага рубля ў адносінах да долара непазбежна выкліча падаражанне (у доларавым эквіваленце) у Расіі беларускіх тавараў. Адпаведна, іх стануць менш набываць. Для таго, каб узнавіць попыт, трэба будзе альбо зніжаць цэны, альбо зніжаць курс беларускай валюты да долара — то бок, праводзіць дэвальвацыю. Улічваючы, што на Расію ў нас прыходзіцца 44% экспарту і 57% імпарту, адно толькі зніжэнне цэнаў не спрацуе.

Варта зазначыць, што панікаваць пакуль рана — у нас ёсць пэўная «падушка бяспекі». Згодна з планам урада, напрыканцы мінулага года долар павінен быў каштаваць 2,2114 беларускіх рубля. Па выніках гэтага — 2,2267. Але, дзякуючы пісьменнай і адданай працы Нацбанка, ён захоўваў свае пазіцыі ніжэйшымі за 2 рубля. І таму цяперашні абвал расійскіх грошай пакуль не крытычны для Беларусі. А вось калі падзенне працягнецца...

Падзенне расійскага рубля ў той жа час можа паспрыяць не толькі абвалу беларускага, але і вымыванню з нашай краіны доларавых «заначак» насельніцтва. Адмыслоўцы ўзгадалі: калі расійскі рубель абрынуўся ў 2014-м, беларусы масава паехалі на закупы ў Бранск і Смаленск — па танныя аўтамабілі і электроніку.

Вымыванне валюты з краіны таксама можа ляснуць беларускі рубель, пра што нядаўна казаў старшы прадстаўнік МВФ у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе Бас Бакер. Па словах Бакера, рэзервовыя активы Беларусі знаходзяцца на нізкім узроўні, а патрэба ў валюце ў краіны — высокая. Гэта і ўяўляе пагрозу дэвальвацыі. А калі долары яшчэ і «з'едуць» з краіны ў Расію...

Суцяшацца пакуль можна тым, што «расійскі шопінг» адбыўся ў той час, калі расійскі рубель страціў каля 30% сваёй вартасці і апусціўся да 80 рублёў за долар. І зараз важна пачакаць: ці працягнецца падзенне расійскага рубля, альбо гэта была ўсяго толькі рынкавая «флуктуацыя» на фоне запуску «санкцыйнага спісу» ЗША.

**Панікаваць пакуль рана — у нас ёсць «падушка бяспекі». Па прагнозе ўрада, у гэтым годзе долар павінен каштаваць 2,2267 рубля. Але ён захоўваў свае пазіцыі ніжэйшымі за 2 рубля. Цяперашні абвал у Расіі пакуль не крытычны для Беларусі**

Карацей, Расія зноў прымусіла нас пахвалявацца. Але няма нічога ліхога, каб на добрае не выйшла. Беларусы ў чарговы раз могуць паздзекавацца з «Рассельгаснагляду», які нібыта знайшоў у беларускай свініне рэшткі афрыканскай чумы свінняў і забараніў яе пастаўкі ў Расійскую Федэрацыю. Прычым, пра забарону паведаміў на сваім сайце, не даслаўшы афіцыйныя паперы зацікаўленым прадпрыемствам.

Такім чынам, нашыя кілбасныя заводы могуць з чыстым сумленнем пачакаць, наколькі прасядзе ў суседзяў іх рубель. І, адпаведна, са зняццем пытанняў па свініне, выставіць расіянам сваю прадукцыю ўжо па новых коштах.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Мікалай Статкевіч



**Экс-кандыдат у прэзідэнты і адзін з лідараў Беларускага нацыянальнага кангрэсу ўжо гатовы супрацьдзейнічаць будучаму магчымаму рэферэндуму.**

Паводле яго меркавання, магчымы рэферэндум па змене Асноўнага закона — галоўная палітычная падзея, ад якой варта адштурхоўвацца пры планаванні апазіцыйных акцый. «Калі да 26 красавіка стане вядомая дата і вынесена на галасаванне пытанні, мы скарыстаемся для пратэсту ў тым ліку "Чарнобыльскім шляхам"», — гаворыць ён.

Статкевіч не адмаўляецца і ад правядзення 1 мая акцыі супраць рэферэндуму, але падрабязнасці пакуль не раскрывае. «Адзінае, чаго баіцца ўлада, адзіны сродак супраць яе, які мае грамадства, — гэта масавы пратэст. Ён не толькі падрывае саму ўладу, але і разбурае яе канструкцыі пра лібералізацыю, падрыхтаваныя для Захаду. Калі на рэферэндуме паставяць пытанне аб падаўжэнні прэзідэнцкага тэрміну, то 7 гадоў могуць пачаць лічыць ад моманту рэферэндуму. Значыць, наступныя выбары адбудуцца толькі ў 2025 годзе», — мяркуе палітык.

У інтэрв'ю belsat.eu Статкевіч пералічыў «галоўныя прыкметы таго, што рыхтуецца рэферэндум». «Па-першае, ідзе штучны разагрэў эканомікі шляхам улівання грошай у некаторыя прадпрыемствы. Па-другое, дыскрэдытацыя пратэсту рукамі персон, якія выступаюць за паляпшэнне рэжыму. Улада таксама праверыла СМІ на лаяльнасць, асабліва тыя, якія працуюць у беларускім сегменце інтэрнэту. Зачыстка інфармацыйнага поля атрымалася. Я маю на ўвазе выпадкі, калі недзяржаўныя СМІ перадавалі абразлівыя выказванні на адрас прыхільнікаў шэсця», — кажа Статкевіч.

## Алесь Карлюкевіч



**Міністр інфармацыі заўсёды звяртаў на сябе ўвагу тым, што публічна выступаў па-беларуску. «Наша Ніва» нават назвала яго хіба не адзіным беларускамоўным міністрам.**

Але выданне заўважыла, што «апошнім часам нешта надламілася»: у двух апошніх выступах, у «Клубе рэдактараў» на БТ і праграме «Тыдзень» на СТБ Карлюкевіч прамаўляў выключна па-руску. У абодвух выпадках гаворка вялася пра меркаваныя змены ў закон аб СМІ.

Варта зазначыць, што раней, выступаючы ў парламенце, ён казаў Алене Анісім: «Што датычыцца сёння прысутнасці беларускай мовы на тэлеканалах нашай краіны, мне здаецца, што прастора пашырылася істотна, і яна будзе яшчэ ў далейшым пашырацца, калі для гэтага будзе падрыхтавана грамадскасць».

І нават зазначыў, што будзе абмяркоўвацца пытанне стварэння ў Беларусі тэлеканала з поўным вяшчаннем на беларускай мове. «Лічу, што гэта даволі цікавая работа, і трэба прадоўжыць далей яе абмеркаванне», — заявіў тады Карлюкевіч.

## Святаслаў Барановіч



**Вязню сумлення, які бараніў дэманстрантаў ад міліцыянтаў у цывільным, 16 красавіка спаўняецца 32 гады. Ён сустрэне дзень нараджэння ў турме.**

Нагадаем, 15 сакавіка 2017 году пасля «Маршу недармаедаў» супрацоўнікі міліцыі ў цывільным спрабавалі затрымаць групу анархістаў, калі тыя сядалі ў тралейбус, каб з'ехаць з месца правядзення акцыі. Мінчанін Святаслаў Барановіч не пазнаў у асобах у цывільным міліцыянтаў і заступіўся за маладых людзей. Узнікла бойка, падчас якой Барановіч ударыў чалавека, які, як высветлілася пазней, апынуўся супрацоўнікам міліцыі. Суд Маскоўскага раёна Мінска 12 сакавіка 2018 года прысудзіў Барановіча да 3 гадоў зняволення ў калоніі агульнага рэжыму.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» і Беларускі Хельсінкскі камітэт не прызналі Святаслава Барановіча палітвязнем. Між тым, Форум «Свабоду палітвязням Беларусі» лічыць справу Святаслава Барановіча цалкам палітычна матываванай.

Даслаць віншаванні Барановічу можна па адрасе: 222160, Мінская вобласць, г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22-а, СТ-8, Барановічу Святаславу Уладзіміравічу.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Безыдэйная ідэалогія

**Паводле Інстытута сацыялогіі НАН РБ, адмова ад прававых або маральных рэгулятараў спрыяе прафесійнай дзейнасці.**

Неяк ціха і незаўважна ў Беларусі прайшоў 15-гадовы юбілей ідэалагічнага семінара, які прыраўняў ролю ідэалогіі для дзяржавы да ролі імуннай сістэмы для жывога арганізма.

Сціпласць, як высветлілася, упрыгожвае не толькі маладых дзяўчат, але і работнікаў ідэалагічнай вертыкалі. Такая асаблівасць прафесіі, якая для простага чалавека на першы погляд не толькі не бачная, але і не патрэбная.

Іншая справа — аўтар азбукі паліталогіі. Без пастаяннага звароту да афіцыйных тэкстаў у інфармацыйнай прасторы яму не абысціся. Дзякуй сучасным тэхналогіям — сёння для паспяховага пошуку патрэбнай цытаты не абавязкова перабіраць карткі ў картатэках бібліятэк.

Але тых, хто меў у юнацтве такога кшталту досвед, думаю, зацікавіць фрагмент успамінаў супрацоўніка міжнароднага аддзела часопіса «Камуніст» Фёдара Бурлацкага: «Неяк я паказваў Суславу тэкст чарговага праграмнага выступу, і ў адным месцы Суслаў заўважыў: «Тут бы трэба цытаткай падмацаваць з Уладзіміра Ільіча. Гэта я сам падбяру». І шустра так пабег у куток кабінета, выцягнуў адну са скрыначак, паставіў яе на стол і стаў хутка-хутка перабіраць карткі з цытатамі. Адну выцягне, паглядзіць — не, не тая. Іншую пачне чытаць пра сябе — зноў не тая. Потым выцягнуў — і так задаволена: «Вось гэтая падыходзіць».

### Мафіёзі па-за канкурэнцыяй

Скарыстаюся вопытам «шэрага кардынала» савецкай партыйнай наменклатуры і адкрыю даклад адзінага палітыка (АП) на ідэалагічным семінары, каб знайсці патрэбную цытату. Думаю, вось гэтая падыходзіць: ***«Грамадства не можа існаваць без цэласнага зводу ідэй, каштоўнасцяў і нормаў, якія аб'ядноўваюць усіх грамадзян*** (вылучана ў афіцыйным тэксце дакладу. — С.Н.). Дзяржава без ідэалогіі, як і чалавек без думкі, не можа жыць і развівацца, тым больш супрацьстаяць унутраным і знешнім пагрозам і выклікам».

Цікава, калі на вуліцы якога-небудзь беларускага населенага пункта папрасіць першых сустрэчных пералічыць асноўныя ідэі, каштоўнасці і нормы, што аб'ядноўваюць беларусаў, дык якая будзе верагоднасць супадзення адказаў?

Не здзіўлюся, калі яна апынецца блізкай да нуля. Але не варта спяшацца з высновай з нагоды няздольнасці беларускай дзяржавы «жыць і развівацца». Рэспандэнтам складана адказваць на адкрытыя пытанні, г.зн. пытанні, якія не змяшчаюць падказкі ў выглядзе набору адказаў. Такая прырода грамадскага меркавання. Нічога спецыфічна беларускага ў гэтым няма.

–Тэхналагічныя нормы, у адрозненне ад прававых і маральных, вы выконваць **абавязаныя**!

Праілюструю дадзенае сцвярджэнне прыкладам з часопіса Інстытута сацыялогіі НАН РБ «Сацыялагічны альманах» за 2010 год. На старонцы 164 прыведзеныя адказы на пытанне: «Хто сёння мае поспех у беларускім грамадстве?». Абмяжуюся крайнімі адказамі, якія рэспандэнты абралі са спісу: крымінальна-мафіёзныя структуры — 74,3%, працавітыя — 4,7%. Якая аднадушнасць! Якая цэласнасць «зводу ідэй, каштоўнасцяў і нормаў»! Спаць можна спакойна. Беларусам ёсць што супрацьпаставіць «унутраным і знешнім пагрозам і выклікам».

І вось як такое неардынарнае размеркаванне адказаў каментуе аўтар артыкула «Фарміраванне грамадзянскай культуры як сістэмная задача палітычнага працэсу ў Беларусі» С. Рыбчак: «У рэйтынгу сацыяльнага поспеху сучаснае беларускае грамадства аддае аднаязначна прыярытэт тым сацыяльным групам, дасягненне высокага статусу якімі забяспечана, як уяўляецца, іх імпліцытнай адмовай ад прававых або маральных рэгулятараў уласнай прафесійнай дзейнасці».

Мудрагеліста, але калі некалькі разоў перачытаць і з дапамогай Вікіпедыі замяніць прыметнік «імпліцытная» на «прыхаваная», то зразумець можна. У Беларусі маюць поспех тыя, хто адмаўляюцца выконваць прававыя і маральныя нормы.

Але для каго гэта навіна? Для чытачоў НЧ? Для сябраў БРСМ або чальцоў прафсаюзаў? А калі чальцоў прафсаюзаў, дык якіх — што ўваходзяць у ФПБ ці БНП? Спіс пытанняў можна працягнуць, толькі навошта? Просты чалавек — ён жа абывацель — каштоўнасці і нормы, якія аб'ядноўваюць беларусаў, спазнае «ідучы ад жыцця», а не ад азбукавых паліталагічных ісцін. Таму ўспрыманне масавага невыканання нормаў у якасці нормы і служыць тым сацыяльным клеем, які склейвае атамізаваных індывідаў (не блытаць з грамадзянамі) і дазваляе ім узаемадзейнічаць не толькі адзін з адным, але і з афіцыйнымі прадстаўнікамі «дзяржавы для народа».

### Ідэі — розныя, задача — адна

Яшчэ адна цытата з дакладу: ***«Ідэалогія — гэта сістэма ідэй, поглядаў, уяўленняў, пачуццяў і вераванняў аб мэтах развіцця грамадства і чалавека, а таксама аб сродках і шляхах дасягнення гэтых мэтаў…*** (вылучана ў афіцыйным тэксце дакладу. — С.Н.)».

Здавалася б, спрачацца тут няма з чым. Аднак, паводле прызнання АП, ідэі, якая лягла б на душу і сэрца, ідэі, якая б «захапіла ўсіх», сфармуляваць так і не атрымалася. Ці варта з-за гэтага хваляваца?

Расійскі філосаф, кіраўнік Цэнтра даследаванняў ідэалагічных працэсаў Аляксандр Рубцоў не бачыць нічога фатальнага ў безыдэйнасці постсавецкіх дзяржаўных ідэалогій. Свой аптымізм ён, у прыватнасці, тлумачыць тым, што жорсткасць марксісцка-ленінскай ідэалогіі не зашкодзіла партыі бальшавікоў прыстасоўваць яе пад выкананне новых задач (ваенны камунізм, НЭП, вялікі тэрор і г.д.). У сучасных жа ўмовах, наадварот, дзеля выканання адной задачы (самазахавання ўлады) у ход ідуць самыя розныя ідэі.

«Мяккая беларусізацыя», якую апошнім часам інкрымінуюць АП расійскія СМІ, — толькі адзін з элементаў такой ідэйнай разнастайнасці. А колькі разоў галоўны архітэктар «беларускай мадэлі» то абвяшчаў пра дэстабілізуючы ўплыў пашырэння NATO, то падкрэсліваў, што Беларусь з'яўляецца катэгарычным прыхільнікам існавання моцнага Еўрасаюза.

**Калі на вуліцы якога-небудзь беларускага населенага пункта папрасіць першых сустрэчных пералічыць асноўныя ідэі, каштоўнасці і нормы, што аб'ядноўваюць беларусаў, якая будзе верагоднасць супадзення адказаў?**

Рэкамендую чытачам вярнуцца да вызначэння ідэалогіі. Як у вядомай рэкламе пра «два ў адным», ідэалогія — адначасова і сістэма ідэй, і сродак для іх дасягнення, на развіццё якога дзяржава грошай падаткаплацельшчыкаў (г.зн. нашых з вамі грошай) не шкадуе (інфраструктура СМІ, адукацыйныя і выхаваўчыя інстытуцыі, псеўдаструктуры псеўдаграмадзянскай супольнасці і да т.п.).

### Мультымедыйная аднастайнасць

5 красавіка АП прызначыў Уладзіміра Жаўняка намеснікам сваёй адміністрацыі. Задача перад неафітам пастаўлена неардынарная: асучасніць сістэму ідэалагічнай работы ў краіне. Вось так, не больш, але і не менш.

Як гэта зрабіць у адсутнасць ідэй, АП не патлумачыў. Усе яго рэкамендацыі да зместу ідэалагічнай работы дачынення не мелі. Яны абмежаваліся выключна яе тэхнічным складнікам. Прапаную чытачам самастойна ацаніць глыбіню рэкамендацый: «У сферы ідэалогіі нам трэба выбудоўваць добрую сістэму. І прамой працы з людзьмі. І асучасніваць яе. Таму што ездзіць па працоўных калектывах і з імі весці дыялог, размаўляць — гэта вельмі важна, заўсёды з людзьмі трэба размаўляць».

Пра што размаўляць — задача не тое каб другасная, а сітуатыўная. Сёння на першым плане могуць апынуцца надоі, заўтра — канстытуцыйны рэферэндум.

Дазволю сабе яшчэ адну цытату: «Нам патрэбны такі чалавек, які будзе ўмець і сам размаўляць з людзьмі, і займацца са сродкамі масавай інфармацыі, арганізоўваць іх, і іншымі пытаннямі, якія тычацца ідэалогіі нашай дзяржавы. Гэта ідэалагічная праца, гэта асноўнае».

Прынцып «два ў адным», мабыць, лепей і не сфармуляваць. Але ўлічваючы, што Жаўняк — чалавек ваенны, я паспрабую зрабіць свой унёсак у разуменне дадзенага прынцыпу: ёсць боегалоўка і ёсць сродак яе дастаўкі. Адно без другога не існуе, тым не менш блытаць іх не варта.

У адпаведнасці з гэтай логікай, прызначаючы Ірыну Акуловіч генеральным дырэктарам рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Беларускае тэлеграфнае агенцтва», АП скіроўваў яе наступнай фразай: «Не скажу, што гэта ўжо такая цяжкая ў вас ноша». Усё правільна. У адрозненне ад «чыстага» ідэолага Жаўняка, зона адказнасці Акуловіч абмяжавана «сродкам дастаўкі». Выраб «боегалоўкі» для яе другасны.

Дзяржаўным ідэолагам і сёння ёсць чаму вучыцца ў сваіх камуністычных папярэднікаў. Напрыклад, уменню кампенсаваць слабасць ідэй моцнай медыйнай інфраструктурай. Актыўная работа ў гэтым напрамку вядзецца. У прыватнасці, на лютаўскай калегіі Міністэрства інфармацыі медыйная галіна разглядалася ў якасці «гіганцкага рэсурсу для забеспячэння дзяржаўнай палітыкі ў нашай краіне».

Тут варта нагадаць чытачам, што «Дэмакратыя ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на аснове разнастайнасці палітычных інстытутаў, ідэалогій і поглядаў» (артыкул 4 Канстытуцыі РБ). Але на чыноўнікаў дадзены артыкул Канстытуцыі не распаўсюджваецца. Яны заклапочаныя прасоўваннем не разнастайнасці, а дзяржаўнай палітыкі. Яны заклапочаныя тэхнічным бокам. Адсюль патрабаванне да кожнай раённай газеты (зразумела, дзяржаўнай) «стаць мультымедыйным цэнтрам».

# «Палітыка — гэта тое, як ты жывеш»

## Твары беларускага анархізму

Мікалай ДЗЯДОК

**Анархісцкі рух у Беларусі актывізаваўся ў 2007–2008 гадах серыяй вулічных акцый і заўважнай прысутнасцю калоны анархістаў на традыцыйным «Чарнобыльскім Шляху». Але сапраўдную вядомасць ён набыў пасля верасня 2010 года.**




Фота www.cablook.com

Тады спецслужбы прайшліся катком па анархічным руху, чыіх прадстаўнікоў абвінавацілі ў шэрагу падпалаў, у тым ліку ў атацы на расійскую амбасаду ў Мінску. Гэта прывяло да з'яўлення ў Беларусі трох палітвязняў-анархістаў.

З таго часу і дагэтуль павялося, што анархістаў ведаюць, зазвычай, дзякуючы інфармацыі пра рэпрэсіі супраць іх. Самі прадстаўнікі руху робяцца цікавымі СМІ толькі тады, калі іх саджаюць на суткі, збіваюць ці судзяць па крымінальных артыкулах. Аднак матывацыя анарха-актывістаў, іх перажыванні і асабістае жыццё застаецца за кадрам.

«Новы Час» пачынае серыю матэрыялаў, прысвечаных беларускім анархістам. Першы з актывістаў — зусім яшчэ малады хлопец. І, хутчэй за ўсё, яго палітычныя перакананні будуць трансфармавацца. Але пакуль што ён — прыхільнік анархізму.

Іван Камар — 16-гадовы актывіст, які сутыкнуўся з міліцэйскімі рэпрэсіямі, ледзь толькі паспеў пачаць палітычную дзейнасць. Мы сустрэліся з ім у адной з мінскіх кавярняў. Хударлявы юнак непрыкметнага выгляду і з засяроджаным поглядам. Сёння ён — навучэнец адной з мінскіх гімназій. Паводле палітычных перакананняў — анархіст. Па ладу жыцця — веган і стрытэйджэр.

Прыход да радыкальных ідэй Іван звязвае з дзіцячымі ўражаннямі і каляфутбольнай субкультурай: «...глядзеў у дзяцінстве фільмы, дзе супраць нацыстаў ваявалі. А потым стаў разумець, што ёсць і зараз нацысты, і мне стала незразумела: як так, «дзяды ваявалі» і ўсё такое! (смяецца). Але потым зразумеў, што і савецкі рэжым — лайно. Заўзеў за МТЗ-РІПА, мне быў цікавы каляфутбол... На банерах бачыў, акрамя сімвалаў антыфашызму, «А» ў крузе, пачаў цікавіцца. Ну а потым ужо пачаў чытаць розныя кнігі: Пітэра Гелдэрлооса напрыклад. Артыкулы розныя, брашуры. Чытаў сайты беларускіх анархістаў».



**Нічога новага я не адчуў, усё гэта было чакана, я ведаў, як што будзе. Адзінае, я не ведаў ніякіх законаў, што нам можа быць за тое, што мы зрабілі. Было хваляванне, што будзе далей. Але ў асноўным — пагрозы, запужванні, — гэта я пераносіў даволі спакойна, бо гэтага чакаў**

Ад словаў моладзь хутка пераходзіць да справы. «Пачаў стасавацца з актывістамі руху, са звычайнымі людзьмі. Тлумачыў звычайным людзям за анархізм», — так апісвае Іван свае першыя крокі ў актывізме. Пасля — вулічныя дзеянні, якія і прывялі Івана да пастарунку і нават крымінальнага артыкулу: «Мы з таварышам гулялі па раёне, расклейвалі анархісцкія налепкі. У ходзе гэтай прагулкі — гэта было заадно і знаёмства з тым чалавекам, мы пашкодзілі відэакамеру. Хутка на нас была дадзеная арыенціроўка, і праз гадзіны паўтары нас затрымалі. Затрымаўшы, знайшлі ўлёткі і іншае. Так што мы трапілі не проста за нейкае дробнае хуліганства — міліцыянты выклікалі людзей з больш «буйных» службаў. Адразу выклікалі іншых міліцыянтаў, з ГУБАЗіКа. Нас развялі па баках, не давалі размаўляць. Допыты, размовы... Нават не адпусцілі пасля таго, як за намі прыехалі бацькі. І нягледзячы на тое, што мы непаўналетнія, кінулі на суткі.

Першапачаткова да нас прыехаў ГУБАЗ, а потым ужо яго супрацоўнікі сказалі, што прыехала брыгада з КДБ, і калі мы зараз будзем працягваць маўчаць, прывядуць іх, і з намі будуць «размаўляць інакш».

На пытанне, што ён адчуў, калі ўпершыню апынуўся сам-насам з прадстаўнікамі «праваахоўных» органаў і ці не было страшна, Іван адказвае ўпэўнена: «Нічога новага я не адчуў, усё гэта было чакана, я ведаў, як што будзе. Адзінае, я не ведаў ніякіх законаў, што нам можа быць за тое, што мы зрабілі, што за артыкулы. Было хваляванне, што будзе далей, што з намі могуць зрабіць. Але ў асноўным — пагрозы, запужванні, — усё гэта я пераносіў даволі спакойна, бо гэтага чакаў. Пагражалі турмой, пагражалі іншыя артыкулы навесіць: «Вы анархісты, а ў Мінску графіці нядаўна намалявалі — усё на вас павесім. Усе апошнія акцыі будуць на вас вісець».

На малады ўзрост падазронага міліцыянты зніжку не рабілі: «З шасці вечара да дзевяці нас цягалі на допыты. Увечары зачынілі ў камеры, зранку — зноў на допыт. Пры гэтым нам нічога не казалі: ці распачатая крымінальная справа, ці не. Былі ўсялякія допыты, размовы незразумелыя. Але толькі на наступны вечар нас адпусцілі дамоў, потым зранку мы прыехалі на афіцыйны допыт, дзе быў адвакат і сацыяльны педагог са школы».

Не ў прыклад іншым палітычным крымінальным справам, выпрабаванне скончылася для юнака даволі памяркоўна. Праз некалькі месяцаў, нічога не кажучы, «крыміналку» перавялі ў адміністрацыйную справу.

На маё пытанне, ці не шкадуе ён, што «ўлез у палітыку», Іван адказвае цвёрда: «Не, вядома. Ад пачатку: палітыка — гэта тое, як ты жывеш. Калі не бярэш сваё жыццё ў свае рукі, то ім будуць кіраваць іншыя».

Каб быць такім упэўненым і гатовым да рэпрэсій, патрэбная добрая матывацыя. Для Івана — «несправядлівасць у гэтым грамадстве». Пытаюся, у чым яна заключаецца. «Гэта прыгнёт чалавека чалавекам, няспынная эксплуатацыя. Лідары са сваімі амбіцыямі. Розныя віды дыскрымінацыі, забабоны», — кажа юнак.

Традыцыйна, хлопец скардзіцца на неразуменне бацькоў: «Як ставяцца да маіх поглядаў? Негатыўна. Як звычайныя бацькі. Абы не было вайны, мая хата з краю... Не хочуць нічога ведаць і чуць».

Тады і я спрабую паддзець хлопца «абывацельскімі» аргументамі:

***— Дык хіба нельга быць такім, як усе? Так жа прасцей, чым сядзець па міліцэйскіх пастарунках?***

— Так, прасцей. Але гэта і жыццём нельга назваць. Проста моўчкі сядзець, бачачы ўсё, што адбываецца навокал. Гэта супярэчыць усім маім унутраным перакананням.

***— Але ж заробкі плацяць, транспарт ходзіць, вайны няма. Навошта рэвалюцыі?***

— Гэтыя людзі, хто так сцвярджае, проста знаходзяцца пад уплывам прапаганды. Я ны гля- дзяць кожны вечар тэлевізар. Аднак усё, што там кажуць, — няпраўда. І абвергнуць гэта можна, калі адкрыць інтэрнэт і пагартаць больш-менш свабодныя навіны. Асабіста я бачу несправядлівасць. Мне даводзілася ісці па вуліцы і бачыць, напрыклад, як уціскаюць іншаземца — проста таму, што ён з іншай дзяржавы. Такое бывае і з боку міліцыі, і з боку звычайных «звышпатрыётаў». Прыкладаў вельмі шмат насамрэч.

Адказы Івана Камара гучаць упэўнена і безапеляцыйна — як з кніжкі. Але юнак не робіць уражання зомбі з прамытым мозгам. Кажа, што акрамя палітычнага жыцця ў яго шмат іншых цікаўнасцяў: «...пераважна гэта цікаўнасці творчыя. Пісьменніцтва, музыка, маляванне, здымкі. Цікаўлюся ўсім патроху». Ёсць у хлопца і мара, але тая — «асабістага характару», таму казаць пра яе не хоча.

Напрыканцы размовы падумалася, што ў нашай мове прагучала цікавае словаспалучэнне: «пакутаваць за справядлівасць». То бок лічыцца, што справядлівасць — гэта апрыёры тое, за што будзеш пакараны. І ў такім выпадку, мая мара — каб пакутавалі тыя, хто паспрабуе несці ў свет несправядлівасць.






Фота www.novayagazeta.ru

**Беларуская дзяржава пры ўсёй штучнай эканоміі выдаткоўвае велізарныя сродкі на ўласныя праекты, якія толькі нагружаюць эканоміку. А замест вырашэння сацыяльных праблемаў спрабуе гуляць на стэрэатыпах пра «дармаедаў»**

# Хто корміць «дармаедаў»?

Віталь МАХНАЧ

**«Хто не працуе — той не есць», — згодна з гэтай савецкай аксіёмай дзейнічаюць і беларускія ўлады. Яны ўжо пачалі вызначаць, за што плаціць «дармаедам» і колькі каштуюць дзяржпаслугі. Пры гэтым чыноўнікі спрабуюць выклікаць салідарнасць тых, хто яшчэ пры працы. «Чаму я павінен плаціць за дармаедаў?» — можна пачуць ад грамадзян. Але ці адлюстроўвае такі падыход саму з'яву беспрацоўя? І да чаго ён прыводзіць?**

### Хто такі «дармаед»?

Ёсць факт, які перакрэслівае само пытанне: «Чаму я мушу карміць дармаедаў?» Большасць з беспрацоўных працавалі раней. 35 працэнтаў іх даходу ішло ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Беларусі — у тым ліку і на сферу падтрымкі беспрацоўных. Таму яны маюць поўнае права на атрыманне дапамогі, калі самі апынуліся сярод гэтай часткі грамадства. І дармаедамі іх лічыць ні ў якім разе нельга.

Але як ацэньваць тых, хто наогул ніколі не працаваў і ніяк наўпрост не фінансаваў сацыяльныя выдаткі дзяржавы? Падаецца, што гэта і ёсць тыя самыя «дармаеды», якіх, са словаў улады, трэба прымусіць да працы. Але ж і гэтыя людзі ўдзельнічаюць у фінансаванні дзяржаўных выдаткаў, бо набываюць тавары ў крамах. А падатак на дададзеную вартасць, які ўтрымліваецца ў кошце кожнага тавару, ідзе ў дзяржаўны бюджэт.

Атрымліваецца, што само паняцце «дармаед» — прапагандысцкі штамп, які не адлюстроўвае рэчаіснасць. І тут нават не трэба звяртацца да паняццяў маралі ці культуры грамадства. Дастаткова строгіх эканамічных паказчыкаў.

### Вынікі сацыяльнай палітыкі

Прынцып стаўлення да беспрацоўных як да людзей другога гатунку, які афіцыйная прапаганда падтрымлівае і замацоўвае як масавы стэрэатып, мае глабальныя наступствы. Па-першае, гэта збядненне працоўных рэсурсаў праз эміграцыю: беспрацоўныя шукаюць працу і шчасця за мяжой. І, канешне ж, з'язджае найбольш мабільная, найбольш адукаваная і найбольш прафесійная іх частка. У выніку мы атрымліваем зніжэнне якасці тых рэсурсаў, што застаюцца. Нават у часы эканамічнага ўздыму, калі будуць патрэбныя спецыялісты, іх давядзецца шукаць за мяжой.

Па-другое, рост колькасці правапарушэнняў. Гэта прамое следства маргіналізацыі насельніцтва, якое не мае працы і іншых шляхоў самарэалізацыі. Як правіла, дзяржава для вырашэння гэтай праблемы яшчэ больш нарошчвае апарат МУС. А гэта — дадатковыя выдаткі з бюджэту, і барацьба з сімптомамі, а не з прычынамі хваробы. Па такім шляху ідуць шматлікія краіны трэцяга свету, чые гарады строга падзеленыя на «гета» для заможных жыхароў і для жабракоў — як, напрыклад, у Бразіліі. А сілавыя ведамствы займаюцца абаронай першых ад другіх.

Яшчэ адно следства такога падыходу да беспрацоўя — знішчэнне творчага патэнцыялу моладзі. Значная частка прафесій сёння найбольш эфектыўна развіваецца ў сферы фрылансу. І спробы аднесці прадстаўнікоў гэтай супольнасці да «дармаедаў» ніяк не стымулююць іх жадання заставацца ў краіне і ўдзельнічаць у інавацыйных праектах, звязаных з беларускай эканомікай.

### Фінскі прыклад

Падтрымка беспрацоўных — эфектыўная альтэрнатыва такому падыходу да гэтай праблемы. За яскравы прыклад можна ўзяць сацыяльную сістэму Фінляндыі.

Памер дапамогі беспрацоўным у гэтай краіне складаў 540 еўра, але з гэтага года пачалася змена сістэмы льготаў. Цягам 2018-га памер дапамогі перастане залежаць ад узроўню заробку на былым месцы працы. Для ўсіх беспрацоўных ён будзе роўны 800 еўра на месяц. З беларускімі 10 еўра (адной базавай велічынёй) гэта немагчыма параўнаць, нават з улікам розніцы коштаў у дзвюх краінах.

Другі момант — празрыстасць працы сацыяльнай сістэмы Фінляндыі. Яе аналаг ФСАН публікуе справаздачы аб атрыманых сродках, шляхах іх атрымання і выкарыстанні. Дзейнасць адпаведнага беларускага ведамства — таямніца для грамадзян краіны.

Акрамя гэтага ў Фінляндыі дзейнічае адна з самых эфектыўных сістэм прафсаюзнай дапамогі. Калі на працягу 10 месяцаў працы ў Фінляндыі чалавек адлічвае 1% заробку ў прафсаюз, то потым, пасля звальнення, цягам двух гадоў ён будзе атрымліваць дапамогу ў памеры 70 працэнтаў былога заробку. Гэта не тычыцца толькі тых, хто звольніўся па ўласным жаданні. У Беларусі прафсаюзная дапамога беспрацоўным адсутнічае.

Калі супаставіць паказчыкі беспрацоўя ў абедзвюх краінах, то ў Фінляндыі гэта 11%, а ў Беларусі... зноў таямніца. Бо ў афіцыйныя паказчыкі, якія не перавышаюць пары працэнтаў, ніхто не верыць, тым больш што

# Колькі бюджэтных грошай трэба, каб

Наталля КАЛЕСНІЧЭНКА

**Ні эканамічных, ні сацыяльных выгодаў ад новага дэкрэта аб так званых «дармаедах» дзяржава не атрымае, пераканаfamы эксперты.**



Ва ўрадзе яшчэ вырашаюць, як будзе працаваць дэкрэт аб садзейнічанні занятасці насельніцтва. Але Саўмін ужо даў вызначэнне занятым і незанятым у эканоміцы беларусам. Таксама стала вядома, што «дармаедам» давядзецца па поўным тарыфе плаціць за паслугі ЖКГ і за карыстанне жылымі памяшканнямі.

Эксперты адзначаюць, што новая версія дакумента не стварае ўмоваў для папаўнення бюджэту за кошт непрацуючых грамадзян і, як і дэкрэт аб папярэднім сацыяльнага ўтрымanства, паўстала без якога-небудзь эканамічнага абгрунтавання.

— Мэта распрацоўшчыкаў і ідэйных натхняльнікаў указа аб дармаедах ідэалагічная: падзяліць грамадзян на «добрых» — тых, хто працуе, і «дармаедаў» — тых, хто не працуе. Пакольκі перад уладамі стаіць у тым ліку задача рэалізаваць даручэнне прэзідэнта, за цаной ніхто не пастаіць, — пераканаНы кіраўнік праекта «Кошт урада» Уладзімір Кавалкін.

Рэалізуючы дэкрэт №3, улады разаслалі 440 тысяч лістоў з патрабаваннем заплаціць «дармаедскі» збор. У выніку заплацілі яго толькі 62,7 тысячы грамадзян на агульную суму ў 18,6 мільёна рублёў. А пазней 19 тысяч грамадзян вярнулі 6 мільёнаў рублёў.

**Зыходзячы з таго, колькі грошай сабралі мінулым разам і колькі іх патрацілі на велізарную прапагандысцкую кампанію праз СМІ, на нарады чыноўнікаў, працоўны час падатковых інспектараў, відаць, што выдаткі значна пераўзыходзяць атрыманы эфект**

У тэорыі дзяржава магла зарабіць на зборах каля 144 мільёнаў рублёў. Але на практыцы аказалася ў мінусе.

— Зыходзячы з таго, колькі грошай сабралі мінулым разам і колькі іх патрацілі на велізарную прапагандысцкую кампанію праз СМІ, на нарады чыноўнікаў, працоўны час падатковых інспектараў, відаць, што выдаткі значна пераўзыходзяць атрыманы эфект, — падкрэслівае эканаміст.

Другая спроба «стымуляваць» людзей працаваць прывядзе да большых выдаткаў на адміністраванне, чым выхлап, на які разлічвае ўрад, адзначае дырэктар Школы маладых менеджэраў публічнага адміністравання SYMPA Наталля Рабава. Акрамя стварэння і дзейнасці камісій, будзе праводзіцца вялікая праца па інфармаванні, садзейнічанні

самі чыноўнікі не раз называлі лічбу ў 450 тысяч беспрацоўных, што насамрэч бліжэй да 10 працэнтаў ад патэнцыйных працаўнікоў у Беларусі.

### Іншая дапамога

Трэба заўважыць, што хоць дапамога беспрацоўным — асноўны паказчык сацыяльнай падтрымкі з боку дзяржавы, але не адзіны. Пенсійная сістэма, сістэма дапамогі і адаптацыі інвалідаў і дапамога па догляду за дзецьмі ў Беларусі таксама непараўнальныя з фінскай. Найлепшы паказчык з трох пералічаных — у дапамогі сем'ям з малымі дзецьмі. Яна ў нас складае каля 100 еўра (адрозніваецца ў залежнасці ад колькасці дзяцей і іншых чыннікаў). Такі памер дапамогі супастаўны з фінскім, але не супастаўныя агульныя даходы сем'яў і іх суадносіны з выдаткамі. Як і тэрмін атрымання дапамогі — у Фінляндыі дзяржава дапамагае сям'і, пакуль дзіцяці не споўніцца 17 гадоў, а не да 3 гадоў, як у Беларусі. Дый гэты паказчык ніяк не выцягвае ўсю сістэму нашай сацыяльнай дапамогі.

Ці не разбураюць фінскую эканоміку такія буйныя выдаткі на сацыялку? Зусім не. Бюджэтныя сродкі ў Фінляндыі ідуць на патрэбы грамадзян, якія гэтыя сродкі і зарабляюць для бюджэту. Вялікія падаткі маюць адваротны бок — добрую сацыяльную абарону грамадства. Сістэма разлічаная і не прыводзіць да бюджэтнага дэфіцыту.

Беларуская ж дзяржава пры ўсёй штучнай эканоміі выдаткоўвае велізарныя сродкі на ўласныя праекты, якія толькі нагружаюць эканоміку. А замест вырашэння сацыяльных праблемаў спрабуе гуляць на стэрэатыпах пра «дармаедаў».

Наступствы гэтага бачныя ўжо зараз. А іх развіццё ў будучыні можна пабачыць на прыкладзе краін трэцяга свету.

# «Будзе стымуляваць безгаспадарчасць у сферы ЖКГ»

**Урад, як і абяцаў, вызначыў, хто будзе лічыцца дармаедам і чым пагражае гэты статус. Спіс тых, хто трапіць пад дзеянне дэкрэта №1, складуць да 1 снежня, а дакладны спіс жыллёва-камунальных паслуг (ЖКП), за якія трэба будзе плаціць па поўных тарыфах, агучаць пазней. Не выключана, што акрамя ЖКП дармаеды будуць цалкам аплачваць і некаторыя іншыя паслугі.**

### «Незразумела, якім чынам камісія можа паспрыяць пошуку працы»

— Аплата па поўным тарыфе жыллёва-камунальных паслуг — гэта быў адзіны даступны варыянт. Ён неідэальны і з мноствам недахопаў, але адзіны даступны — астатнія былі вельмі складаныя ў рэалізацыі і шмат у чым супярэчылі Канстытуцыі. Але пры гэтым варыянт не доўгатэрміновы, і праз некалькі гадоў будзе ўжо не актуальны, бо ўрад плануе неўзабаве выйсці на стопрацэнтную аплату асноўных паслуг, — лічыць Кацярына Барнукова, эксперт Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра BEROC.

Эксперт кажа, што «камісіі па дармаедах наўрад ці дапамогуць чалавеку знайсці працу».

— Гэта такое бюракратычнае трызненне. Для дапамогі ў пошуку працы ў нас ёсць біржа працы і банк вакансій. Незразумела, якім чынам тут здольная паспрыяць камісія. З іншага боку, яна можа дапамагчы людзям, якія сапраўды патрапілі ў складаную сітуацыю, напрыклад, даглядаюць хворых сваякоў. Але, зноў жа, камісіі будуць працаваць абсалютна па-рознаму ў розных раёнах, і ў выніку атрымаецца незразумела што.

Ці хопіць чалавеку трох месяцаў, каб знайсці новую працу пасля звальнення, залежыць ад эканамічнай сітуацыі ў краіне, тлумачыць Кацярына Барнукова. Нагадаем, беларусаў, з якімі спынены працоўныя адносіны, — на працягу квартала, наступнага за кварталам, у якім адбылося звальненне, не будуць адносіць да незанятых у эканоміцы.

— Відавочна, што калі мы кажам пра крызіс, які быў у 2015–2016 гадах, гэтага часу недастаткова. У эканамічна добрыя часы можна знайсці працу за 3 месяцы, але проста няма сэнсу адміністрацыйна скарачаць або стымуляваць гэты працэс. Вельмі важна, каб людзі выбіралі тую працу, якая ім пасуе і для якой падыходзяць яны. Гэта частка максімізацыі прадукцыйнасці працы. Калі знаходзіць абы-якую працу толькі дзеля таго, каб не патрапіць у дармаеды, гэта ні да чаго добрага не прывядзе.

### «Яснасці ў статусе дармаеда не дадалося»

Старшы аналітык «Альпары» Вадзім Іосуб кажа, што ўдакладненні па дэкрэце №1 атрымаліся чаканымі.

— Яснасці ў статусе дармаеда не дадалося. Больш за тое, ён стаў яшчэ менш вызначаны і зразумелы, чым у першым варыянце дэкрэта мінулага года, — лічыць Вадзім Іосуб.

Аналітык адзначае, што ў старым дэкрэце было зразумела, што, да прыкладу, людзі, якія праводзяць больш за паўгода за мяжой ці вучацца за мяжой, не з'яўляюцца дармаедамі. У новым жа на гэта ўказанняў няма.

— Першапачаткова было шмат пытанняў наконт таго, як плаціць поўны кошт паслуг тым, у каго ў сям'і хтосьці дармаед, а хтосьці не, — задаецца пытаннем Вадзім Іосуб. — А значыць, нічога ясней не стала. Не выключана, што гэта могуць спусціць на камісіі па працы з дармаедамі, каб яны дадумвалі, як гэтую кашу рэалізоўваць. Як мне здаецца, нічога добрага не атрымаецца.

Эксперт падкрэслівае, што вырашыць пытанні беспрацоўя гэты дакумент ніяк не дапаможа.

— Адзінае рашэнне — стварэнне новых працоўных месцаў, — упэўнены аналітык. — Калі новых працоўных месцаў няма, колькі дэкрэтаў ні пішы, беспрацоўю ты гэтым не дапаможаш. А стварэнню рабочых месцаў дэкрэт не спрыяе зусім. Падобна на тое, што ідэалогія дэкрэта накіравана на тое, каб матываваць людзей да рабскай таннай працы. У нас ёсць зарэгістраваная беспрацоўе — 0,5%, ёсць фактычнае беспрацоўе па апытаннях Белстата, і яно прыкметна вышэй. Ёсць людзі, якія, з аднаго боку, шукаюць працу, хочуць працаваць, але не становяцца на біржу працы, каб за вельмі маленькія грошы ўдзельнічаць у грамадскіх працах. Сярод дармаедаў могуць апынуцца людзі з вышэйшай адукацыяй, з вопытам работы, якія лічаць, што гэты занятак не для іх. Але дэкрэт да гэтага людзей матывуе. Або спрабуе матываваць. А да рэальнага вырашэння праблем беспрацоўя ён не мае ніякага дачынення.

Эксперт лічыць, што 100-працэнтная аплата камунальных паслуг «працягне стымуляваць поўную безгаспадарлівасць, якая робіцца ў сферы ЖКГ».

— Тут якраз упор робіцца на тое, што дармаеды будуць цалкам аплачваць ацяпленне. Па ўсім астатнім мы ўжо наблізіліся да 100% аплаты, — распавядае Вадзім Іосуб. — Але ў нас да гэтага часу ніхто не ведае, што ўваходзіць у сабекошт ацяплення і адкуль бяруцца лічбы. Дастаткова зімой паглядзець на заснежаныя вуліцы — па снегу, які растае, выразна бачна, дзе праходзяць пад зямлёй трубы. Становіцца зразумела, што адна з асноўных задач падачы ацяплення — гэта абаграваць нашу атмасферу. Калі тэарэтычна ўявіць, што частку людзей можна будзе прымусіць аплачваць 100% выдаткаў, — у чым будуць зацікаўлены службы ЖКГ? Можна будзе больш выдаткаваць, як мага больш пусціць цяпла не ў дамы, а на вуліцу, дапусціць больш працечак вады і г.д.

**FINANCE.TUT.BY, пераклад НЧ**

# прымусіць «дармаедаў» працаваць?



**Уладзімір Кавалкін: «Мэта распрацоўшчыкаў і ідэйных натхняльнікаў указа аб дармаедах ідэалагічная»**



**Наталля Рабава: «Дакумент досыць спрэчны... Але вертыкалі далі зразумець, што даручэнне трэба выконваць, нягледзячы ні на што»**

працаўладкаванню, кантролі, разгляду спрэчных пытанняў. Давядзецца таксама аплачваць працу бухгалтараў ЖЭС, участковых міліцыянераў, стварэнне і падтрыманне банка дадзеных незанятых у эканоміцы.

— Дакумент досыць спрэчны, можа прынесці шмат дадатковых цяжкасцяў. Давядзецца вырашаць нямала пытанняў, першае з якіх — як аплачваць паслугі ЖКГ, калі на адной плошчы пражываюць дармаеды і недармаеды, — прыводзіць прыклад эксперт.

Пры распрацоўцы дэкрэта №1 наўрад ці хто-небудзь рабіў яго эканамічнае абгрунтаванне. Ці выгодны ён грамадству з пункту гледжання эканамічнай эфектыўнасці, можна толькі меркаваць, адзначае Уладзімір Кавалкін. Але відавочна, што грошай будзе зэканомлена значна менш, чым выдаткавана рэсурсаў на працу па выяўленні незанятых грамадзян і працы з імі.

— Мы зноў убачым аналагі партсходаў савецкага перыяду, калі чыноўнікі ўдзесяцёх будуць засядаць для таго, каб разабраць справу аднаго няшчаснага грамадзяніна дзеля 100–150 рублёў на год, — прагназуе эксперт.

Мінпрацы прагназуе, што пад дзеянне дэкрэта №1 могуць трапіць каля 250 тысяч беларусаў. Улады абяцаюць падыходзіць да вырашэння іх праблем «індывідуальна». Гэта азначае, што камісіям трэба будзе правесці вялікую работу. Фарміраваць спісы тых, хто павінен будзе аплачваць паслугі ЖКГ па поўнаму кошту, інфармаваць іх, разбіраць заявы і спрэчныя пытанні, прымаць рашэнні наконт вызвалення ад абавязку плаціць за паслугі па поўных тарыфах — на адміністраванне грошы будуць ісці з бюджэту краіны.

Калі на аднаго дармаеда камісія хоць бы з 3 чалавек выдаткуе паўгадзіны, то атрымаецца 375 000 чалавека-гадзін, а прыняўшы гадзіну працы дзяржслужачага за 6 рублёў (калі ў яго зарплата пяцьсот долараў), атрымліваем 2 мільёна 250 тысяч рублёў (больш за мільён долараў!) выдаткаў грошай падаткаплацельшчыкаў толькі на пасяджэнні камісій, падлічыла Наталля Рабава.

Зрэшты, у дакументах гаворыцца, што сябры камісій (акрамя сакратара) выконваюць гэтыя функцыі на грамадскіх пачатках, але час — усё роўна грошы, бо ў гэты момант яны не выконваюць свае непасрэдныя абавязкі.

Не выключана, што мясцовыя бюджэты панясуць і ўскосныя страты.

— Вертыкалі далі зразумець, што даручэнне трэба выконваць, нягледзячы ні на што. Паколькі пакаранне за адсутнасць працы можа несці не канкрэтны чалавек, а ўся сям'я, паўстае пытанне, наколькі гэта несправядліва. І будзе нядзіўна, калі з'явяцца прынцыповыя неплацельшчыкі камунальных паслуг, як цяпер гэта адбываецца з тэхаглядам, — адзначае Наталля Рабава.

Эксперт адзначае: фінансавае пытанне для тых беларусаў, хто трапіў пад дэкрэт, будзе стаяць не так востра, як гэта было падчас дзеяння першага дакумента, калі трэба было адразу выплаціць вялікую суму, і рэзкага напружання ў грамадстве новы дэкрэт не выкліча. Але паступова падобныя дзеянні могуць прывесці да таго, што абурэнне насельніцтва будзе нарастаць.

**«Заўтра тваёй краіны», пераклад НЧ**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРКМЕНІСТАН. Забараніць бікіні і шорты?

У Туркменію забаранілі ўвозіць для продажу жаночыя купальнікі-бікіні і шорты. Пра гэта паведамілі гандляры адзеннем. Афіцыйных каментараў няма, аднак супрацоўнікі мытнай службы на ўмовах ананімнасці кажуць пра кампанію змагання за мараль. Маўляў, улады вырашылі, што туркменскім дзяўчатам не варта насіць купальнікі. Між тым, з набліжэннем лета попыт на гэтае адзенне толькі расце. Варта адзначыць, што летам тэмпература ў Туркменістане можа дасягаць 50 градусаў. Трэба дадаць, што разнастайныя абмежаванні наконт знешняга выгляду грамадзян туркменскімі ўладамі ўводзяцца даўно. Пэўны час у рэспубліцы дзейнічала забарона нават на залатыя зубы. Праца над аблічам жыхарак рэспублікі актывізавалася ў сакавіку гэтага года, калі жанчынам — супрацоўніцам дзяржустаноў забаранілі цэлы шэраг папулярных касметычных працэдур, у тым ліку фарбаваць і нарошчваць пазногці, а таксама фарбаваць валасы ў белы колер. У сувязі з гэтым туркменская мытня перастала прапускаць у краіну светлыя фарбы для валасоў, а таксама сродкі для меліравання.

**Паводле туркменскай прэсы**

### НОВАЯ ЗЕЛАНДЫЯ. Усе мовы пайшлі ад адной?

Такую тэорыю прапанавалі навукоўцы з Новай Зеландыі на старонках часопіса «Science». На аснове вывучэння існуючых у свеце моваў яны сцвярджаюць, што ўсе мовы пайшлі ад адной канкрэтнай пратамовы. Пратамова існавала прыкладна 50–70 тысяч гадоў таму ў Афрыцы, калі чалавецтва па ўзроўні развіцця знаходзілася ў стане каменнага веку. Каб прыйсці да такой высновы, навукоўцы вывучылі каля 500 моваў, знайшоўшы паміж імі падабенствa. Сцвярджаецца, што па ходзе таго, як нашы далёкія продкі пачалі пашыраць зону пражывання, кожная група пачала развіваць сваю версію пратамовы. Цяпер засталося толькі знайсці народ, які будзе найбольш блізкім да той старажытнай мовы. На думку навукоўцаў, зрабіць гэта няцяжка. Ёсць думка, што мовы з найбольшай колькасцю гукаў будуць належаць да самых старажытных, у той час як маладыя мовы будуць выкарыстоўваць менш гукаў. Некаторыя афрыканскія мовы ўтрымліваюць больш за сотню фанемаў, у той час як тая ж англійская — толькі каля пяцідзесяці.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ЛІТВА. ЕС супраць прыбіральняў



Еўрапейская камісія (ЕК) прыстрашыла Літву санкцыямі за адмову многіх жыхароў літоўскіх вёсак далучацца да каналізацыі і ліквідаваць прыбіральні ў дварах. Нагадаем, што Вільня паабяцала Брусэлю падлучыць да цэнтральнай каналізацыі прыкладна 800 тысяч жыхароў Літвы, якія ходзяць па патрэбе ў прыбіральні-«шпакоўні» ў двары. Ліквідаваць «домікі з дзіркай» трэба па працягу пяці гадоў, аднак асаблівага прагрэсу пакуль не назіраецца. Улады прызнаюць, што праз недахоп грошай у людзей працэс падлучэння літоўскіх вёсак да каналізацыі ідзе досыць складана. Таму наўрад ці атрымаецца ліквідаваць у гэты тэрмін хаця б 2% прыбіральняў-«шпакоўняў». Гэта азначае, што Літву могуць аштрафаваць. Напрыклад, Люксембург за тое, што не падключыў да каналізацыі дзве акругі, атрымаў аднаразовы штраф у памеры 2 мільёны еўра, а таксама 2,8 тысячы еўра за кожны пратэрмінаваны дзень. Падкрэслім, што ў Літве такіх праблемных акругаў не дзве, а цэлых 58.

**Паводле літоўскай прэсы**

### АРГЕНЦІНА. Знайшлі сына Мюлера?

Калі верыць аргенцінскай газеце «El Cronista», у нямецкім МЗС цяпер пануе сапраўдны хаос. Справа ў тым, што ў пасольства ФРГ у Буэнас-Айрэсе завітаў пенсіянер, які цудоўна размаўляе на нямецкай мове. Ён сцвярджае, што нарадзіўся ў 1946 годзе ў Аргенціне ў падземным бункеры, дзе яго бацька, нацыст Генрых Мюлер (той самы, ролю якога выконваў акцёр Бранявы ў фільме пра Шцірліца) хаваўся разам са сваёй жонкай. Праз нейкі час, кажа стары, бацька пакінуў жонку з сынам і знік. Сын Мюлера застаўся жыць з маці, пакуль днямі не згадаў пра свае нямецкія карані і не вырашыў вярнуцца на радзіму продкаў. Паводле «El Cronista», цяпер нямецкія дыпламаты спрабуюць даведацца, ці сапраўды той пенсіянер прыходзіцца родным кіраўніку Гестапа. Не выключана таксама, што стары — хворы на галаву нашчадак нямецкіх каланістаў. Напрыклад, ён сцвярджае, што бацька схаваўся ў бункер, паколькі ведаў, што Гітлер, прайграючы вайну, збіраўся развязаць іншую вайну — ужо атамную.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Як серыял зрынуў Чаўшэску

*Алег НОВІКАЎ*

**У красавіку спаўняецца 40 гадоў славутаму серыялу «Далас», які, як высвятляецца сёння, быў вельмі важным фактарам краху дыктатуры Нікалае Чаўшэску.**




У вядомым рамане-утопіі Уладзіміра Вайновіча «Масква–2042» ёсць сцэна пра тое, як у будучыні жыхары камуністычнай Масквы глядзяць «Далас», кадры якога амерыканцы навучыліся дэманстраваць на неба. Вось як апісваецца сцэна ад імя героя кнігі:

«Усё неба над галавой шугала рознакаляровым полымем. На аблоках, якія пакрывалі сотні ці нават тысячы гектараў неба, дэманстраваўся нейкі фільм. З'явіліся ясна бачныя фігуры. Дзве дамы ў раскошных сукенках пілі ў рэстарацыі шампанскае. Павольна праплыў доўгі "кадылак". Я прыгледзеўся і ахнуў: гэта быў "Далас", знакаміты амерыканскі фільм. Па вуліцы міма нас цёк натоўп народу: мужчыны, жанчыны, дзеці і старыя. Многія з іх цягнулі ў руках падсцілкі, падушкі і коўдры. Гэта было падобна на масавую раптоўную эвакуацыю. Я ўліўся ў агульную плынь і неўзабаве разам з усімі апынуўся на шырокай пустцы. Там сядзела ўжо процьма народу. Тысячы, а можа нават дзясяткі тысяч. Яны сядзелі ціха, некаторыя паасобку, іншыя групамі. Усе глядзелі ў неба, і ўсё маўчалі. Нейкая маўклівая змова».

Хаця жанрава «Масква–2042» лічыцца сатырычнай фантастыкай, на самай справе нешта падобнае было ў Румыніі часоў дыктатуры Чаўшэску. Прыкладна ў пачатку 1980-х гадоў дыктатар вырашыў паказаць румынам «Далас». На той момант серыял ужо быў сапраўднай класікай. «Мыльная опера», якая транслявалася каналам CBS з 2 красавіка 1978 года, пабіла ўсе рэкорды. Фільму ўдалося прыцягнуць да экранаў рэкордныя 83 мільёны гледачоў — гэта значыць, 76 працэнтаў ад тых, хто глядзіць тэлебачанне ў ЗША.

Дагэтуль сярод культуролагаў працягваюцца спрэчкі пра прычыны поспеху сагі, якая, нагадаем, распавядала пра разборкі ўнутры заможнай тэхаскай сям'і Юнгаў. Лічыцца, што твор выцягнуў акцёр Лары Хэгмэн, які выканаў ролю адмоўнага персанажа Джэя Ара, якога таксама называлі Дж. Р. Нечаканa публіка палюбіла героя Хэгмэна, які прыдумляў хітрыя падступныя махінацыі для дасягнення мэтаў. Дайшло да таго, што ў Злучаных Штатах з'явіліся налепкі «Дж.Р. у прэзідэнты».

Яшчэ адно ноў-хаў «Даласа» — так званыя «кліфхэнгеры» (англ. cliffhanger, або cliffhanger ending), мастацкі прыём у стварэнні сюжэтнай лініі. Усе эпізоды ў «Даласе» — не толькі заключныя — заканчваліся драматычнымі сцэнамі. У фінале кожнай серыі хтосьці з герояў абавязкова трапляў у аварыю, губляў дзіця або раптам даведваўся пра цяжарнасць.

Аднак не гэта падштурхнула Чаўшэску набыць серыял для пракату ў Румыніі. Румынскае кіраўніцтва, як пішуць гісторыкі, вырашыла на прыкладзе «Даласу» давесці карупцыйную прыроду амерыканскай мадэлі, маральны дэкаданс яе эліты.

Аднак румыны адрэагавалі на серыял інакш. Яны ўбачылі на экране не карупцыю, а шмат рэчаў, пра існаванне якіх нават не ведалі. Такую рэакцыю можна цалкам зразумець, калі ўзгадаць рэаліі румынскага сацыялізму. Паводле афіцыйных інструкцый, у кватэры дазвалялася запальваць толькі адну лямпачку магутнасцю 15 ват, выкарыстанне халадзільнікаў і іншых электрапрыбораў зімой катэгарычна забаранялася. Парушэнні выяўляліся спецыяльна створанай з гэтай мэтай «эканамічнай паліцыяй». Парушальнікаў для пачатку каралі штрафамі, а ў выпадку рэцыдыву — адключэннем газу і электраэнергіі наогул. Гарачая вада ў кватэры практычна не падавалася.

Што тычыцца тэлебачання, то яно працавала 2–3 гадзіны на суткі. Большасць кантэнту складалі прапагандысцкія праграмы. Не дзіўна, што «Далас» на іх фоне выглядаў вельмі прывабна. Хутка краіну ахапіла сапраўдная мода на серыял. Суайчыннікі пісалі, што ў той час румынскія бацькі публічна ганарыліся тым, што ў іх сем'ях расце хуліган, не горшы за Дж. Р.

Хутка спецслужбы заўважылі негатыўны ўплыў серыялу на грамадскую думку, пра што апаратыўна даклалі наверх. Кажуць, што Чаўшэску таксама зразумеў памылку, аднак здымаць стужку з праграмы тэлебачання было ўжо позна. Акрамя таго "генія Карпатаў" (афіцыйны тытул Чаўшэску) душыла жаба — за серыял было заплачана каштоўнай валютай.

У кнізе Вайновіча прагляд «Даласа» заканчваецца з'яўленнем армады вайсковых самалётаў, якія перарываюць сеанс, абстрэльваючы аблокі трасіруючымі снарадамі. Гледачы пры гэтым разбягаюцца. У румынскім варыянце ўсё было інакш. Калі ўвосень 1989-га ў краіне пачаліся першыя хваляванні, румыны аказаліся пасіўнымі да заклікаў афіцыёзу «не дапусціць рэстаўрацыі капіталізму». Наглядзеўшыся «Даласа», яны, наадварот, толькі гэтага і хацелі. Значэнне «Даласа» адзначалі самі рэвалюцыянеры. Ледзь не першым, што зрабілі на румынскім тэлебачанні пасля рэвалюцыі — паказалі серыял без цэнзуры (цэнзары Чаўшэску выразалі з «Даласа» ўсе эратычныя сцэны). Сам Хэгэн у сваіх інтэрв'ю вельмі ганарыўся тым, што серыял з яго ўдзелам зрынуў Чаўшэску.

І толькі пасля смерці актора ў 2012 годзе высветлілася, што ўся гэта гісторыя дасюль хавае шмат сакрэтаў. Стала вядома, напрыклад, што Чаўшэску быў вялікім фанатам Хэгмэна, якому нават даваў хабары. Сам Хэгмэн казаў, што гэта плата за дазвол дэманстраваць свае выявы на білбордах у Бухарэсце. Аднак той факт, што ён хаваў гэтую інфармацыю да самай смерці, дазваляе прэсе дапускаць самыя неверагодныя версіі. Аж да таго, што загад страляць у 1989 годзе ў натоўп Нікалае Чаўшэску аддаў, жадаючы быць падобным на свайго куміра Дж. Р.

# Землятрус па прозвішчы Орбан

Алег НОВІКАЎ

**На думку прэсы, пераканаўчая перамога на парламенцкіх выбарах 8 красавіка ў Венгрыі Віктара Орбана і яго партыі «Fidesz» паўплывае на лёс не толькі ўсходнееўрапейскага рэгіёну, але і ўсяго Еўрасаюза.**


Фота www.2000.ua

У прынцыпе, «элегантная перамога» Орбана была адразу прагназаваная. Аднак нейкія надзеі ў яго апанентаў заставаліся. Падчас выбарчай кампаніі сацыялісты — вядучая партыя дэмакратычнай апазіцыі, — нечакана дапусцілі магчымасць кааліцыі з радыкальнымі правымі з партыі «Jobbik». Нягледзячы на экстравагантнасць падобнага саюзу, з'явіўся сапраўды рэальны сцэнар адхіліць ад улады партыю Орбана «Fidesz».

Аднак канчатковыя дадзеныя венгерскага ЦВК пахавалі гэтыя ілюзіі. «Fidesz» у саюзе з хрысціянскімі дэмакратамі атрымаў 48,5 працэнта галасоў пры самай вялікай яўцы за апошнія 15 гадоў (каля 70 працэнтаў). У выніку Орбан займеў не проста самую буйную ў парламенце фракцыю, а фракцыю, якая мае права перапісаць пад сябе Асноўны закон.

Такія вынікі галасавання фенаменальныя для ўсёй Еўропы. Нездарма ў прэсе кажуць пра ўплыў выбараў на агульнаеўрапейскія расклады. Перш за ўсё, як лічаць журналісты, поспех Орбана адгукнецца на профілі Вышаградскай групы — аб'яднання Венгрыі,Чэхіі, Славакіі і Польшчы. Вышаград, які паўстаў у 1991 годзе, апошнім часам адкрыта пікіраваўся з Брусэлем. Гэта выявілася ў сабатажы брусэльскіх цыркуляраў наконт міграцыйнай палітыкі. Усходняя Еўропа ўпарта адмаўляе логіку Еўракамісіі, якая патрабуе ад краінаў-сябраў ЕС увесці квоту на прыём мігрантаў. Непакоіць старую Еўропу і тое, што лідары Вышаграда апелююць да тэмы абароны хрысціянства, падточваючы свецкія прынцыпы еўрапейскага праекту.

Як піша нямецкі «Tageszeitung», перамога Орбана яшчэ больш замацуе аўтанамісцкі дрэйф краін-сябраў Вышаграда, затармозіць іх трансфармацыю ў прававыя свецкія дзяржавы. Трыумф Орбана, на думку выдання, як мінімум робіць практычна немагчымым распрацоўку агульнай еўрапейскай міграцыйнай хартыі.

Яшчэ больш катэгарычная італьянская «Panorama», якая лічыць, што вышаградскі бунт можа ўвогуле пахаваць Еўрасаюз. Выданне прагназуе, што цэнтрабежныя і дэструктыўныя працэсы стартуюць пасля 2020-га, калі спыніцца праграма фінансавай падтрымкі краінаў — новых сябраў ЕС. У сваіх фантазіях аўтар публікацыі ў «Panorama» не выключае нават стварэння альтэрнатыўнага Еўрасаюзу, аб'яднання «Новая Еўропа», куды, акрамя краінаў Вышаграда, увойдзе Усходняя Германія і Аўстрыя.

Палохаюцца ў старой Еўропе таксама экспарту выбарчых тэхналогій «Fidesz», якія будаваліся на застрашванні электарату нашэсцем мігрантаў. Як адзначае славацкі «Spectator», Орбан можа натхніць «апетыты самадзяржаўя ў іншых палітыкаў, якія таксама мараць панаваць без канца і без увагі на палітычныя педантычнасці». Сапраўды, у сталіцах краін Вышаграда поспех Орбана быў успрыняты як прыклад. Далей за ўсіх пайшоў чэшскі прэм'ер Андрэй Бабіч, які віншаваў Орбана на венгерскай мове. Намеснік кіраўніка МЗС Польшчы Конрад Шыманскі заявіў, што «пераканаўчая перамога партыі Віктара Орбана ў Венгрыі з'яўляецца вынікам эмансіпацыі Цэнтральнай Еўропы».

Найбольшую пагрозу нямецкі «Die Welt» бачыць у тым, што Віктар Орбан — найбольш прарасійскі сярод вышаградцаў палітык, — становіцца нефармальным лідарам аб'яднання. Не выключана, што Будапешт пачне актывізаваць кантакты з Масквой, каб балансаваць у адносінах з Брусэлем. Іншыя лічаць, што лідарства ў Вышаградзе ўсё ж захавае Польшча як самы буйны эканамічны актор.

Каапераці па лініі Масква — Будапешт вельмі баяцца ва Украіне, дзе апошнім часам абвастрылася «венгерскае пытанне». Этнічныя венгры Закарпацця незадаволеныя адным з артыкулаў новай рэдакцыі Закона пра адукацыю, які пераводзіць усе школы нацменшасцяў на мову тытульнай нацыі. За плячыма закарпацкіх венграў стаіць Венгрыя, якая нават патрабуе ўвядзення на тэрыторыю Закарпацця назіральнікаў АБСЕ. Украінская прэса аднагалосна канстатуе, што спіраль венгерска-ўкраінскай канфрантацыі пасля 8 красавіка працягне раскручвацца.

Складаецца ўражанне, што ў старой Еўропе пакуль не ведаюць, як рэагаваць на новыя венгерскія выклікі. Старшыня Еўракамісіі Жан-Клод Юнкер гуляе ў маўчанку. Адказваць замест Юнкера давялося яго намеснікам спікеру, які карэктна павіншаваў Орбана, дадаўшы фразу пра «неабходнасць пошуку агульных інтарэсаў».

А вось шараговыя палітыкі эмоцый не хаваюць. Шматлікія лідары правапапулісцкіх партый віталі перамогу Орбана. «Віншуем, Віктар Орбан! Дрэнны дзень для Еўрасаюза, але добры для Еўропы», — такі твіт напісала адна з лідараў партыі «Альтэрнатыва для Германіі». У Нідэрландах мясцовы папуліст Герт Вілдэрс павіншаваў «выдатны вынік» Орбана і яго «заслужаную перамогу». А лідарка французскага «Нацыянальнага фронту» Марын Ле Пэн увогуле лічыць венгерскія выбары пачаткам новай нацыяналістычнай хвалі ў Еўропе.

Падобныя віншаванні выклікалі раз'юшаную рэакцыю з боку лібералаў і эколагаў. Яны кажуць, што сваімі віншаваннямі правыя палітыкі легітымізавалі брудныя піяр-тэхналогіі Орбана. Яшчэ больш агрэсіўную рыторыку дазволіў сабе міністр замежных спраў Люксембурга Жан Асельборн. Каментуючы падзеі ў Венгрыі, чыноўнік палічыў неабходным аб'яднаць усіх сябраў ЕС на платформе саюзнай дамовы, каб «нейтралізаваць гэтую пухліну».

З іншага боку, як адзначаюць аглядальнікі, вельмі асцярожная ацэнка Брусэлем вынікаў выбараў у Венгрыі можа азначаць карэкціроўку старой лініі. Замест таго, каб дражніць Будапешт, ЕС спрабуе ігнараваць Орбана, намагаючыся ўсё ж уцягнуць яго ў свае гульні і камбінацыі. Між тым, цяжка ўявіць, як кіраўніцтва ЕС праігнаруе ідэю Орбана зачыніць адукацыйныя ўстановы і няўрадавыя арганізацыі, якія фінансуе Джордж Сорас. Прычым зрабіць гэта венгерскі прэм'ер абяцае самым бліжэйшым часам.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Аляксандр Мітш



Нямецкі палітык, старшыня так званага «Werteunion» (Саюз каштоўнасцяў) — аб'яднання кансерватараў унутры Саюза хрысціянскіх дэмакратаў (CDU) і баварскага Саюза хрысціянскіх сацыялістаў (CSU), фактычна кінуў выклік Ангеле Меркель.

Мітш і яго аднадумцы 7 красавіка на з'ездзе «Werteunion» прынялі «Кансерватыўны маніфест». Дакумент заклікае Ангелу Меркель адмовіцца ад цэнтрысцкага курсу на карысць вяртання да кансерватыўных каштоўнасцяў. На практыцы гэта павінна азначаць большую ўвагу да праблемаў сям'і, якая павінна будавацца па класічнай схеме, плюс перагляд міграцыйнай палітыкі. На думку кансерватараў, тая палітыка павінна быць больш жорсткай, і ўключаць у тым ліку забарону на культурную аўтаномію. Усе мігранты павінны пагадзіцца на асіміляцыю. Таксама прапануецца вярнуць абавязковую вайсковую службу.

Нельга не адзначыць, што ў з'ездзе кансерватараў бралі ўдзел вядомыя апаратчыкі CDU і міністры. Пазіцыю кансерватараў таксама ўзмацнілі навіны з Венгрыі, дзе партыя Віктара Орбана, нефармальнага лідара еўрапейскіх правых папулістаў, трыумфальна перамагла на парламенцкіх выбарах.

Што да Ангелы Меркель, то яна намагаецца спакойна ўспрымаць крытыку. Як заявіў адзін з яе намеснікаў, кансерватары могуць прапанаваць свае ідэі партыйнай камісіі, сябры якой працуюць над новай партыйнай праграмай.

### Алег Ляшко



Лідар Радыкальнай партыі Украіны надумаў ажаніцца. Абранніцай дэпутата Вярхоўнай Рады стала ўраджэнка Днепрапятроўска (зараз — проста Днепр) з іспанскімі каранямі Расіта Сайранен, з якой ён пражыў у грамадзянскім шлюбе амаль 20 гадоў.

Па словах Ляшко, пасля такога тэрміну сумеснага жыцця цягнуць з вяселлем ужо проста непрыстойна. Аднак шмат хто не верыць словам палітыка. Па-першае, грамадскасці сваю жонку і дачку Ляшко паказаў толькі сем гадоў таму. Па-другое, вакол лідара Радыкальнай партыі выбухнуў сексуальны скандал — усплыла інфармацыя пра нетрадыцыйную сексуальную арыентацыю палітыка. Восенню 2010 года ў сетцы з'явіліся відэазапісы, якія былі зробленыя ў 1993 годзе падчас допыту ў пракуратуры, калі тады яшчэ 21-гадовы Алег Ляшко распавёў пра свае сексуальнае жыццё з мужчынам. З таго часу Ляшко ў народзе ўпарта разглядаюць як прадстаўніка нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыі. Менавіта таму і спатрэбілася вяселле, якое, па задуме яго паліттэхнолагаў, з'яўляецца спробай рэабілітаваць імідж Ляшко.

У дадатак падціскае час: прэзідэнцкія выбары ва Украіне адбудуцца ўжо менш чым праз год — 31 сакавіка 2019-га. Ляшко, які мае някепскі рэйтынг, таксама плануе балатавацца.

Але эксперты сумняваюцца ў тым, што Ляшко здолее пазбавіцца рэнамэ гомасексуала. Зрэшты, калі ён выйдзе ў другі тур з Пятром Парашэнкам, то на хвалі пратэстных настрояў выбаршчык можа заплюшчыць вочы на скандальны бэкграўнд палітыка.

### Аліўе Фор



Палітык, якому 49 гадоў, 8 красавіка па выніках унутрыпартыйнага галасавання быў абраны новым старшынёй Партыі сацыялістаў Францыі (PS). Яго кандыдатуру падтрымалі больш за 70 працэнтаў удзельнікаў галасавання.

Яшчэ пару гадоў таму старшыня PS быў вельмі статуснай фігурай у Францыі. Аднак у часы прэзідэнцтва Франсуа Аланда партыя моцна дэградавала. На прэзідэнцкіх выбарах 2017-га кандыдат ад сацыялістаў у першым туры атрымаў 6,36 працэнта галасоў, заняўшы толькі пятае месца. На выбарах у Нацыянальную асамблею ўлетку PS атрымала 5,2 працэнта, што забяспечыла ёй усяго 30 мандатаў. Шмат вядомых сацыялістаў перабеглі ў лагер прэзідэнта Эмануэля Макрона.

Нягледзячы на шлейф згаданых катастроф, новы старшыня аптымістычна глядзіць у будучыню. За кошт падтрымкі сацыяльных ініцыятыў накшталт цяперашняга страйку чыгуначнікаў і жорсткай апазіцыі на адрас Макрона сацыялісты збіраюцца вярнуцца ў вялікую палітыку. «Дэвіз рэспублікі — «Свабода, роўнасць, братэрства», а не «Лібералізм, індывідуалізм, банапартызм», — заявіў у сваёй першай прамове ў якасці старшыні Аліўе Фор, дасылаючы «чорную метку» Макрону.

Праўда, у сацыялістаў шмат канкурэнтаў на левым флангу. У тым ліку цяпер ужо былая маладая секцыя PS, якая ў дзень абрання Фора заявіла пра сыход у аўтаномнае плаванне.

# Азартная геаграфія Літвы і Беларусі

Анатоль СЦЕБУРАКА

**Эпоха Асветніцтва асацыюецца не толькі з бязмежнай верай у чалавечы розум і гуманізм, — гэта яшчэ і вясёлы час. Еўропа канчаткова разняволілася і пачала жыць напоўніцу, не адмаўляючы сабе ў шматлікіх спакусах і заганах. Сярод апошніх паважнае месца займалі ігральныя карты.**

Безумоўна, у карты гралі і да таго часу, але маштаб гульняў XVIII стагоддзі пераўзышоў усе ранейшыя межы. Ён быў настолькі значным, што на картачныя гульні Людовікам XV нават быў уведзены адмысловы падатак, што мусіў запаліць дзіркі ў каралеўскім скарбе і прафінансаваць пабудову Ваеннай школы ў Парыжы.

На агульнай хвалі папулярнасці карт ды іншых настольных забаваў у Францыі ў XVIII стагоддзі пачынаюць ствараецца і адукацыйныя гульні. У 1711 годзе выходзіць кніга *«Увядзенне ва ўсеагульную геаграфію»*, якая, паводле вызначэння аўтара, была «больш гульня, чым вучоба». Вельмі распаўсюджаным робіцца выданне *«Акадэмія гістарычнай гульні»* (1718), а ў 1740-я гады сціскаюць да гульнявога фармату нават лацінскую граматыку. Праз адаптаваныя карты спрабавалі вывучаць геральдыку, музыку, мову, гісторыю, геаграфію, а ў канцы стагоддзя — засвойваць новыя рэвалюцыйныя каштоўнасці.

Спынімся на адным яскравым артэфакце той прыўкраснай эпохі. Ідэальным спалучэнні павеваў Асветніцтва з наймаднейшымі спакусамі тагачаснага вышэйшага свету — картачнай гульні з геаграфічным зместам. Гульні, якая наўпрост датычыцца нашай радзімы.

## «Гэта спосаб ужыць на карысць іх розуму страту іх грошай»

Гэтыя картачная гульня стала плёнам супрацы вядомага парыжскага гравёра і выдаўца эстампаў Мікалая Жан-Батыста дэ Пойі (1707–1780) і прадпрымальніка, які спецыялізаваўся на вытворчасці ігральных карт, — Жан-Батыста Мітуара. Апошні актыўна працаваў у 1746–1770 гадах на французскім рынку і меў не абы-якую рэпутацыю за густ і высокую якасць прадукцыі.

Гульня, пра якую мы кажам, прадавалася ў выглядзе адмысловага камплекта з інструкцыяй пад камерцыйнай назвай *«Карты для вывучэння геаграфіі»*. Калі мастак і выдавец былі дастаткова вядомымі асобамі, то з аўтарам арыгінальнай задумы — усе больш складана. Зрэшты, даследчыкам удалося ідэнтыфікаваць асобу аўтара і зразумець, навошта яму спатрэбілася распрацоўваць такі маштабны адукацыйна-забаўляльны праект па геаграфіі. Ім апынуўся інжынер-географ спадар Дэлэстр, які, магчыма, атрымаў адукацыю пры французскай Акадэміі навук. Ён задумаў гэты праект, калі апынуўся на службе ў замку Ісі ў сям'і Луі-Францсуа дэ Бурбона Канці (1717–1776). Абавязкам інжынера, відаць, быў не толькі дагляд тамтэйшых фартыфікацый, але і выхаванне адзінага сына патрона, хвабравітага і кволага Луі-Францсуа-Жазэфа Бурбона (1734–1814). Відавочна, што якраз у пачатку 1750-х гадоў гэты вучань пачаў вучыць геаграфію... Адначасова ў парыжскім выдавецтве з'явіўся набор ігральных геаграфічных карт з адмысловым прысвячэннем дому дэ Канці, па якіх малады *«прынц крыві»* мог вандраваць па ўсім свеце, не пакідаючы палаца ў французскай сталіцы.

Дарэчы, адначасова гэта быў і досыць удалы камерцыйны праект, бо карты прагягвалі прадавацца яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў у Парыжы, Бардо, Авіньёне, Лазане, Жэневе, Амстэрдаме і Брусэлі па добрым кошце ў 24 ліўры. Больш таго, на карты быў попыт. Таму ў 1772 годзе быў зроблены нават дадатковы наклад. А выдавец Мітуар, дзякуючы гэтаму і іншым наватарскім праектам, стаў яшчэ больш вядомым у інтэлектуальным асяродку Парыжа.

У рэкламным артыкуле *«Газеты вучоных»* у 1752 годзе сцвярджалася, што карты зроблены ў той жа паслядоўнасці і логіцы, *«як настаўнік геаграфіі ажыццяўляе яе выкладанне»*, а таксама была акрэслена мэтавая аўдыторыя патэнцыйных пакупнікоў: *«Бацькі і маці, настаўнікі пансіянатаў і ўсе, хто вывучыць геаграфію»*. Памер карт быў дастаткова невялікі (8,4 х 6,1 см), але дазваляў змясціць шмат інфармацыі.

За што плаціў аматар азартных гульняў? Было два варыянты: першы — больш танны, разлічаны, відаць, на французскіх патрыётаў (уключаў толькі гальскія тэрыторыі). Другі — для аматараў еўрапейскай палітычнай геаграфіі. Поўная версія гульні складалася з набору ў адмысловай скрыні з вечкам, якая ўключала ў сябе тры камплекты па шэсць калод карт з адмысловай інструкцыяй на трыццаці старонках. У ёй аўтар тлумачыў сэнс задумы, педагагічны эфект, магчымыя варыянты гульні для найлепшага аваладання геаграфіяй і пашырэння кругагляду ў моладзі.

Калода карт Дэлэстра мела чатыры колеры: чырвоны, жоўты, зялёны і сіні. Кожная масць складалася з 13 карт, як і мусіла быць у традыцыйнай калодзе. Каралі і дамы ў каронах, а ніжнікі (вальты) убраныя ў каўпакі ці шапкі, у адпаведнасці са звычаямі той ці іншай краіны.

На карце з каралём друкаваліся звесткі пра краіну ці правіцеля, называлася яе сталіца. Каралева ўтрымлівае звесткі пра адміністрацыйны падзел тэрыторыі. Ніжнік — назвы галоўных рэк. Туз вылучаўся выявай гербу краіны і дадатковымі звесткамі пра ўрадлівасць і камерцыю краю. Для карт у кожнай масці 10, 9, 8, 7, 6, 5, 4, 3, 2 — была прымеркаваная адпаведная колькасць графічных элементаў (гарады з іх адлегласцю да сталіцы, інфармацыя пра рэкі, на якіх яны стаяць). Дэлэстр выбачаўся, што з-за фармату карт яны змяшчаюць далёка не ўсю інфармацыю, але бадай дастатковую для моладзі для пачатку навучання.



Як трэба было абыходзіцца з картамі? Самы просты варыянт — граць з імі ў звычайныя гульні, бо яны былі да гэтага цалкам адаптаваныя. Але стваральнік прадугледзеў некаторыя асаблівасці, каб яны лепей служылі адукацыі. Ён увёў дадатковую карту з сапраўднай геаграфічнай мапай дзяржаваў і правіцый у адпаведнасці з агульнай колькасцю калод. Астатнія 13 карт у камплекце былі іх дадаткам і працягам. Гэтыя чатыры геаграфічныя карты ў пачатку гульні раздавалі ўдзельнікам, што вызначала іх месца за сталом (супадала з правілам гульні ў папулярную ў той час *«Кадрыль»*). Гулец, які глядзеў на гэтую карту ўсю гульню, вывучаў абрысы краю, які ён па волі лёсу рэпрэзентаваў. З гэтымі картамі можна было іграць у іншыя гульні, пашыраныя ў французскім каралеўстве XVIII стагоддзя: *«пікет»*, *«медыятар»*, *«віст»*.

Каб азарт не зусім засціў вочы і не замінаў педагагічным мэтам, Дэлэстр палічыў магчымым увесці пэўныя дадатковыя правілы. Прыкладам, у час гульні супернікі мелі права запытваць адзін у аднаго сталіцы дзяржаваў, кліматычныя ўмовы і геаграфічныя тэрміны *(«Што такое выспа? — Выспа, гэта тэрыторыя меншая за кантынент, абкружаная вадой»)*. А атрымаўшы даму ці караля, удзельнік гульні мусіў услых пераказаць змест карты. Цікава: Дэлэстр прадбачыў, што яго ўмовы могуць быць занадта нуднымі і складанымі для маладых гульцоў. Але тое яго не дужа засмучала: ён верыў, што нават пры самай простай аўтаматычнай гульні элементы ведаў міжволі закладаюцца ў галовы маладзёнаў, дзякуючы іх учэпістай памяці.

## «Зялёныя — козыр»

Сёння ў шматлікіх калекцыях і кнігазборах захоўваюцца поўныя камплекты *«Карт каб вывучаць геаграфію»* Дэлэстра. У прыватнасці, у Музеі французскіх ігральных карт зберагаецца скрынка з арэху значных памераў, абклееная мармуровай паперай, у адмысловых ячэйках якой месцяцца калоды карт — шыкоўных эстампаў рукі мастака-мініяцюрыста з дынастыі Паолі, размаляваныя пэндзлем у колеры масці.

Адна калода для частак свету; шэсць — для Францыі; тры — для Германскай імперыі; адна — для Англіі, Шатландыі, Ірландыі і Галандыі; адна — для Швецыі, Даніі, Нарвегіі і Прусіі; дзве — для Італіі; дзве — для Іспаніі і Партугаліі... Дзе шукаць Беларусь? У калодзе *«Вялікая Польшча, Малая Польшча, Чырвоная Русь і Літва»*, згодна з рэаліямі геапалітыкі сярэдзіны XVIII стагоддзя. Да падзелаў Рэчы Паспалітай было яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў, а таму запакаваць абшары Рэспублікі Абодвух Народаў у калоды карт Прусіі, Аўстрыі і Расіі ніхто не спяшаўся.

То бок, Дэлэстр зрабіў адмысловую калоду карт, якая ўключыла ўсю тагачасную Рэч Паспалітую. Вялікая і Малая Польшча — жоўты і чырвоны колер, Чырвоная Русь — сіні, а Літва — зялёны. У Рэчы Паспалітай няспешна бег час каралявання перадапошняга манарха — Аўгуста Саса, які стаў каралём у 1733 годзе пры дапамозе расійскай зброі. А французы ў час *«Вайны за польскую спадчыну»* (1733–1735) былі не супраць паставіць на гэта месца свайго пратэжэ, цесця Людовіка XV, Станіслава Ляшчынскага.

Дарэчы, Луі-Францсуа дэ Бурбон Канці (якому была прысвечаная гэтыя геаграфічныя забава), пачынаў сваю бліскучую вайсковую кар'еру якраз з удзелу ў гэтым канфлікце ў складзе Рэйнскага войска Францыі. Магчыма, гэтым тлумачыцца такая пільная ўвага Дэлэстра да Рэчы Паспалітай. Каб дагадзіць патрону, ён выпусціў для яе асобную гульнявую калоду. Гэта тым больш цікава, бо пасля пэўнага ўздыму зацікаўленасці ў Францыі да Рэчы Паспалітай у канцы XVI — пачатку XVII стагоддзя, у час стварэння карт Дэлэстра, гэты інтарэс фактычна знікае, што было, відаць, вынікам значнага аслаблення ўплыву польска-ліцьвінскай федэрацыі ў Еўропе да пашырэння анархіі ўнутры краіны (Для параўнання: часам буйнейшыя краіны траплялі ў больш шчыльную кампанію. Так, усяго адна калода была прадугледжана для Венгрыі, Трансільваніі, Турцыі і Масковіі).

Час пазнаёміцца з Вялікім княствам Літоўскім! Якую інфармацыю на невялічкіх картах для гульні змог змясціць гравёр Паолі?

## Мапа ВКЛ

Мапа ВКЛ пафарбаваная ў зялёны колер і арыентаваная не на поўнач, а на ўсход. Моцная дэфармацыя канфігурацыі дзяржавы, відаць, выкліканая неабходнасцю ўпісаць вялікую тэрыторыю ў спецыфічны фармат ігральных карт. Сустракаюцца відавочныя памылкі (*Браслаў* пазначаны як *Брэслаў* і гэтак далей).

## Літва

**Туз**

Вялікае Княства Літоўскае вельмі ўрадлівае на зерне ўсіх гатункаў. Пашы выдатныя; тут знаходзіцца шмат лясоў, поўных усімі відамі дзічыны, дзікіх жывёлаў і раёў дзікіх пчол, што робяць свае вуллі ў ствалах дрэваў, а іх мёд белы з вытанчаным цудоўным смакам; у рэках шмат рыбы. Выява — герба «Пагоня».

Камерцыя Літвы канцэнтруецца ў Вільні, дзе знойдзеш усе віды тавараў.

Жамойція — гэта край лясоў і вельмі высокіх пагоркаў, дзе шмат ласёў. Яна багатая на мёд, тамтэйшыя коні ў вялікай павазе.




**«З калекцыі Нацыянальнай бібліятэкі Францыі»**

**Кароль**

Вільня — сталіца ВКЛ. Рака Вілля. Адлегласць ад Кракава 158 лье. Стылізаваная выява Вільні на рацэ Віллі.

ВКЛ на поўначы мяжуе з Курляндскім княствам, Лівоніяй і Маскоўскай імперыяй, на ўсходзе з Маскоўскай імперыяй, на поўдні з Валынню і Чырвонай Руссю, на захадзе з Польшчай і Прускім княствам. Злучана з ВКЛ Курляндыя, абмежаваная на поўначы Балтыйскім морам і Лівоніяй, на поўдні і ўсходзе ВКЛ, на захадзе — Балтыйскім морам.

**Дама (каралева)**

Мінск (*«Minski»*), цэнтр аднайменнага ваяводства на рацэ Свіслач. Адлегласць ад Кракава 176 лье.

ВКЛ дзеліцца на тры часткі: уласна сама Літва, малая Белая Русь і Жамойція. Сама Літва мае два ваяводствы: Віленскае і Трокскае. Малая Белая Русь уключае ў сябе шэсць ваяводстваў: Навагрудскае, Берасцейскае, Мінскае, Мсціслаўскае, Віцебскае і Полацкае.

Жамойція не мае ўнутранага падзелу. Курлянскае Герцагства дзеліцца на ўласна Курляндыю і Сямігалію.

**Валет**

Мсціслаў, цэнтр аднайменнага ваяводства на рацэ Сож (Мсціслаў знаходзіцца на рацэ Віхры, даплыве Сажа. Але на карце паказваецца Сож, відаць, як буйнейшая бліжэйшая рака. Хаця ў іншых выпадках, такога спрашчэння не дапускаецца. Напрыклад: *«Навагрудак на ручаіне, Ашмяны на ручаіне, Браслаў на возеры»*. — аўт.). Адлегласць ад Кракава 257 лье.

Найбольш значныя рэкі, што арашаюць ВКЛ, Жамойцію і Герцагства Курляндскае, ёсць Нёман, Дзвіна, Днепр, альбо Барысфен, і Прыпяць.

Менш значныя Вета, Муша, Дзісна, Вілля, Шчара, Беразіна, Одрвацъ (Друць), Сож, Гарынь, Стыр.

Далей калода складаецца з васьмі карт, арганізаваных такім чынам, каб дэманстраваць адлегласць кожнага паселішча ад Кракава і яго прыналежнасць да пэўнага ваяводства.

**10-ка.** *Віленскае ваяводства ВКЛ:* Ашмяна, Вязынь *(на Віллі)*, Мядзел, Браслаў, Вялікамір. *Трокскае ваяводства ВКЛ:* Трокі (сталіца ваяводства), Коўна, Аліта, Ліда, Беліца.

**9-ка.** *Трокскае ваяводства ВКЛ:* Гродна, Луна, Ваўкавыск. *Ваяводства Навагрудскае ў малой Русі Белай:* Навагрудак (сталіца ваяводства), Масты, Любань, Нясвіж, Петрыкавічы, Парычы.

**8-ка.** *Ваяводства Берасцейскае ў малой Русі Белай:* Бярэсце сталіца, Сяльцо *(на Ясельдзе)*, Пінск, Кольна на Прыпяці. *Ваяводства Мінскае ў малой Русі Белай:* Барысаў, Пухавічы, Свіслач, Бабруйск.

**7-ка.** *Ваяводства Мінскае ў малой Русі Белай:* Рэчыца, Горваль, Чачэрск, Рагачоў. *Ваяводства Мсціслаўскае ў малой Русі Белай:* Крычаў, Быхаў, Магілёў (відавочная памылка, бо Орша, Шклоў, Быхаў, Магілёў былі ў Віцебскім ваяводстве — аўт.).

**6-ка.** *Ваяводства Мсціслаўскае ў малой Русі Белай:* Орша, Одручко *(Друцк)*, Шклоў. У сярэдзіне XVII стагоддзя горад быў разбураны і канчаткова прыйшоў у заняпад. Аднак на картах Дэлэстра *«беларуская Троя»* яшчэ выступае як адно са значных паселішчаў Мсціслаўскага ваяводства. — аўт.). *Ваяводства Віцебскае ў малой Русі Белай:* Віцебск *(сталіца ваяводства)*, Сураж, Гарадзецк *(Гарадок)*.

**5-ка.** *Ваяводства Віцебскае ў малой Русі Белай:* Ула, Лукомля. *Ваяводства Полацкае ў малой Русі Белай:* Полацк (сталіца ваяводства), Туроўля, Суша.

**4-ка.** *Ваяводства Полацкае ў малой Русі Белай:* Ушачы, Дрыса. *Княства Жамойція:* Расіены, Меднікі.

**3-ка.** Біржы ў Жамойціі. У *Курляндыі*: Віндаў, Голдынген.

**2-ка.** *У Сямігаліі, у герцагстве Курляндскім:* Мітава, сталіца Сямігаліі і Курляндыі, Egypten (Egypten — такі дзіўны тапонім сапраўды існуе і лакалізуецца недалёка ад Даўгаўпілса (Ēģipte — Medumu pagasts)).

## Крыніцы натхнення Дэлэстра

Чым мог карыстацца Дэлэстр, апісваючы Беларусь? Чаму менавіта такая інфармацыя трапіла на карты?

Біяграфія Дэлэстра фактычна не вывучаная. Будзем сыходзіць з таго, што пры падрыхтоўцы свайго праекта ён запазычваў звесткі з найбольш аўтарытэтных і сучасных крыніц па геаграфіі Рэчы Паспалітай. Безумоўна, спыніцца на ўсіх выданнях той эпохі цалкам нерэальна, таму абмяжуемся некалькімі пазіцыямі, які найперш звяртаюць увагу з-за відавочнага падабенства.

На першае месца просіцца чатырохтомнае выданне эрудыта і энцыклапедыста Нікаля Лэнгле (Nicolas Lenglet Du Fresnoy) пад тытулам *«Метад для вывучэння геаграфіі, у якім даецца дакладнае апісанне Свету, узятае з лепшых аўтараў»* (Парыж, 1716). Яно некалькі разоў перавыдавалася і было ў той час найбольш актуальным і дасяжным. У 1730-х гадах Лэнгле адаптаваў свой твор па геаграфіі для выхавання дзяцей, гэта кніга была выдадзена ў перакладзе ў Віленскай друкарні ў 1780-х гадах. А кніга па гісторыі Лэнгле дае разгорнуты нарыс развіцця ВКЛ і Польшчы да канцы XVII стагоддзя.

Пры апісанні Рэчы Паспалітай Лэнгле цешыў самалюбства французаў заўвагай, што *«Польшча адносіць да сваіх найлепшых дзён тыя, што прайшлі пад уладай Прынца з дынастыі Анжу (Генрых Валеза)»*. У параграфе гэтай кнігі, што змяшчае апісанне ВКЛ, тлумачыцца нечаканае далучэнне да *«малой Белай Русі»* Берасцейшчыны, што раней стала адносілася да рэгіёну Літвы. *«Уласна Літва, паводле Starovolscius, за якім паўтарае большасць географаў, уключае Віленскае, Трокскае і Берасцейскае ваяводствы, але гэта апошняе [ваяводства] перанёс у малую Белую Русь вучоны Hartnock, якому мы верым і за ім паўтараем»* (заўважым, што тут выкарыстоўваецца не проста дэфініцыя «Белая Русь», а «малая Белая Русь» — без асобнага тлумачэння неабходнасці дадатку «малая». — аўт.).

Згодна з гэтым тлумачэннем, параграф *«Малая Белая Русь»* сапраўды апісвае згаданыя ваяводствы. Пра Берасцейскае дадаецца (да гонару аўтара), што яно з'яўляецца цэнтрам рэгіёна, званага Палессе. А Мінск паўстае як «вельмі моцны замак сярод балот» (магчыма таму для сваёй дамы Дэлэстр абраў з магчымых варыянтаў менавіта Мінск).

Нарыс пра ВКЛ заслугоўвае асобнага аналізу, бо ў ім шмат вартых дэталяў пра наш «дастаткова ветлівы і жыццярадасны» народ шляхецкі. А візітнай карткай ВКЛ з'яўляліся лясы, воск, мёды і *«такая славутая медавуха»*...

У некаторых фрагментах тэксты карт Дэлэстра наўпрост цытуюць сачыненне Лэнгле. Напрыклад, тэкст з Туза: *«Жамойція ... тамтэйшыя коні ў вялікай павазе»*, а ў Лэнгле знаходзім лагічны фінал сказу *«...тамтэйшыя коні ў вялікай павазе за іх лёгкасць і хуткасць»*.

## Не правінцыя

Нават такая легкадумная крыніца, як гэтыя геаграфічныя карты для гульні, дае нам цікавы злепак уяўленняў замежнікаў пра нашу Бацькаўшчыну трыста — трыста пяцьдзясят гадоў таму. Відавочна, мела месца *пэўнае спазненне ў абнаўленні* звестак пра ўрбаністыку ВКЛ, інакш не патлумачыш згадкі як значных цэнтраў Друцка, Вязыні, Улы, Сушы, якія хутчэй звязаныя з беларускімі рэаліямі XVII стагоддзя, чым сярэдзіны XVIII стагоддзя.

Паводле гульні, ВКЛ мела выразныя асаблівасці і выглядала не так блага: досыць урадлівае, прыдатнае да жыцця, са шматлікімі гарадамі, з лясамі, і, што адметна, вельмі пчаліны край. Не выглядае яно і польскай правінцыяй, што будзе пазней пераважаць ва ўяўленнях еўрапейцаў ужо пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, пераважна дзякуючы высілкам польскай эміграцыі.

Падсумоўваючы, скажам, што гейміфікацыя асветы пачалася не сёння. Карты Дэлэстра яшчэ раз даказваюць, што адукацыя не павінна быць выключна сумнай і акадэмічнай справай, але можа ўключаць і элементы спаборніцтва; цікавай і захапляльнай для вучняў, прыбытковай для выдаўцоў і выніковай для выкладчыкаў.

# Што адбываецца з Чырвоным касцёлам?

Дзіяна ПІНЧУК

**Беларуская рэканструкцыя гістарычных славутасцяў з'яўляецца ледзь не самай пазнавальнай у свеце. Сярод вандроўнікаў ужо з'явілася прымаўка, заснаваная на сумных прыкладах такога абнаўлення: «Трэба з'ездзіць і паглядзець, пакуль не рэканструявалі». Падобная сітуацыя складваецца і з адным з сімвалаў сталіцы — Чырвоным касцёлам у Мінску.**





Рэканструкцыя яшчэ ў самым разгары, але для таго, каб ужо зараз убачыць яе хібы, не трэба мець вышэйшай адукацыі, якой валодаюць інжынеры КУП «Мінская спадчына», што ажыццяўляе абнаўленне самага вядомага каталіцкага храма Беларусі.

Справядлівасці дзеля адзначым, што Чырвоны касцёл ніводнага разу сур'ёзна не рэканструяваўся — за сваю больш чым стогадовую гісторыю. Але ісці на такі сур'ёзны крок толькі для таго, каб паставіць галачку насупраць «правялі рэканструкцыю Чырвонага касцёла перад Еўрапейскімі гульнямі–2019», як мінімум, па-блюзнерску. Гэта павінна быць вельмі грунтоўная і ўдумлівая праца. Але ўжо сёння ўнутры Чырвонага касцёла можна ўбачыць няўзброеным вокам жоўтыя плямы і трэшчыны на столі, якія сталі наступствам зімовых вонкавых работ.

А якіх яшчэ вынікаў трэба было чакаць, калі будаўнікі арганізавалі асноўны фронт працы па замене даху ў зімовы перыяд, падчас моцных снегападаў? Формула іх працы выглядала наступным чынам: зняць старое пакрыццё — пачакаць, пакуль туды нападае снег, — пакласці новую дахоўку. І самыя жахлівыя наступствы здарыліся, калі снег пачаў раставаць і прасочвацца: па храму пайшлі жоўтыя падцёкі, а ў некаторых месцах — увогуле трэшчыны.

«Не адмаўляем, што, акрамя ўсяго, у нас і раней падцякаў падвал, і таму мы зрабілі саматробныя трубы з кропельніц. Але мы ж спадзяваліся на тое, што рэканструкцыя выправіць сітуацыю. А на справе зрабілася горш. Пасля прац з дахам увогуле ліліся ручаі па сценах. А плашчаніцу мы вымушаны былі накрыць цэлафанам, бо яна можа сапсавацца ад вільгаці», — дзеліцца прыхаджане з «Новым Часам».

Такую паспешлівасць тлумачаць хуткім надыходам Еўрапейскіх гульняў, што пройдуць у 2019 годзе ў Мінску. Дык на справе: мы маем толькі чарговую паказальную працэдуру?

Гэта не дае права будаўнікам нават не прыслухоўвацца да пажаданняў у рэканструкцыі настаяцеля Чырвонага касцёла. З улікам сучасных рэалій, памяшканні храма і плябаній маюць патрэбу ў перапланіроўцы.

Самае цікавае, што перад пачаткам рэканструкцыі адбылося сумеснае пасяджэнне арганізацыі, што займаецца абнаўленнем касцёла, і прадстаўнікоў каталіцкага храма, якое было арганізавана з мэтай наладжвання дыялогу паміж бакамі. Падчас яго Чырвоны касцёл агучыў усе пажаданні, і іх выслухалі. Але, як высветлілася ў далейшым, не пачулі: пасяджэнне мела толькі фармальны характар. Па сутнасці, ні адно пажаданне не было ўлічанае.



Так, адным з пажаданняў была перабудова плябаніі (двара святара). Але ўвесь дыялог звёўся да таго, што будаўнікі адзін раз прыйшлі, зрабілі замеры, спыталі, як было, — і ў выніку так і пакінулі, змяніўшы толькі матэрыялы.

«Мы чакалі рэканструкцыю, бо хацелі зрабіць унутры так, як нам будзе зручна. Мы хацелі змяніць прызначэнне памяшканняў. Мы не разумеем, навошта трэба было лезці ўнутр, зрываць падлогу, плітку, каб паставіць тое ж самае? Мы лічылі, што калі гэта ўсё зрываецца, то з мэтай, каб змяніць, спытаўшы наша меркаванне», — кажуць прыхаджане.

У Чырвоным касцёле ўвогуле існуе праблема з памяшканнямі. Напрыклад, на кухні месца хапае толькі для адной гаспадыні. Але ў храме бывае шмат гасцей, відавочна, што месца трэба больш. Рамонт не вырашыў гэтую праблему. Будаўнікі проста змянілі матэрыялы са старых на новыя.

Таксама ў Чырвоным касцёле няма спецыяльных службовых памяшканняў, ёсць толькі адна маленькая каморка, дзе размяшчаюцца і пральня, і прасавальная, таксама тут знаходзяцца фларыст і прыбіральшчыца. Відавочна, што кожнаму з іх патрэбна асобнае месца працы. Але пакуль такая перспектыва нават не плануецца.

Тая ж сітуацыя склалася вакол хораў і тэатра «Зніч», якія дзейнічаюць пры касцёле. Першым няма дзе рэпетаваць, а тэатр ужо не змяшчаецца ў адведзеным яму месцы. Але і на гэта не звяртаюць увагі, не кажучы ўжо пра спробы вырашэння праблемаў.

Вялікай праблемай з'яўляюцца навучальныя класы пры каталіцкім храме. У Чырвоным касцёле для гэтага адведзены толькі два самаробныя пакоі, дзе адсутнічаюць усе ўмовы для навучання дзяцей: ні вентыляцыі, ні вокнаў там няма. У нядзельнай школе навучаецца больш за 800 чалавек, яны не змяшчаюцца ў тых пакоях. Аднак гэтыя класы так і пакідаюць, прапаноўваючы змяніць толькі назву.

Надзею на вырашэнне гэтай праблемы да апошняга давалі Мінгарвыканкам, ад якога дагэтуль чакаецца дазвол на будаўніцтва нядзельнай школы. Праект зроблены, і Касцёл гатовы цалкам узяць на сябе будаўніцтва, але мясцовыя ўлады чамусьці не спрыяюць гэтаму.

Пакідае жадаць лепшага і якасць будаўнічых матэрыялаў. Першапачаткова абяцалі, што копію кожнай цэглы будуць выраблясць індывідуальна. Зразумела, што, паводле агульнапрынятых у свеце стандартаў, рэканструкцыя не выконваецца з матэрыялаў, якія выкарыстоўваюць у звычайнай будоўлі. Замежнікам ужо даўно вядомае паняцце «спецыяльныя тэхналогіі» ў дачыненні да рэканструкцыі. У нас, як заўжды, спасылаюцца на адсутнасць фінансавання не толькі на «спецыяльныя тэхналогіі», але і на якасныя матэрыялы. Сярод будаўнікоў чуваць размовы: «Пяць гадоў дакладна прастаіць!» Будынку больш за 100 гадоў, а яны прапануюць абмежавацца гарантыйным тэрмінам?

Толькі перад Каталіцкім Вялікаднём у Чырвоным касцёле з'явіўся аварыйны выхад. І зноў такі, актыўным ініцыятарам яго разбудовы з'яўляліся прадстаўнікі касцёла. Улічваючы тое, што новы праект прадугледжваў запасны выхад, будаўнікі не спяшаліся, а можа і ўвогуле не збіраліся яго рабіць. Дагэтуль на тысячныя патокі прыхаджан на вялікія святы прыходзіўся адзін галоўны выхад. Нават МНС не звяртала ўвагі на просьбы зрабіць другі выхад, тым самым забяспечыць усе меры пажарнай бяспекі.

«У нас такі цяпер такі стан, напоўнены страхам, што, калі будаўнікі прыйдуць у касцёл з унутранымі работамі, то паўтарыцца тая ж гісторыя, што і на плябаніі. Пытанне толькі адно: а навошта рабіць тое, што нам не трэба?» — задаюць пытанні прыхаджане.

Як вядома, у савецкі час Чырвоны касцёл быў перапрафіляваны ў Дом кіно. Сакральны будынак не толькі пазбавілі рэлігійнай атрыбутыкі, але і перабудавалі. Прыхаджане ў прамым сэнсе гэтага слова змагаліся за яго. Гэта страшна. Але не менш жахліва тое, што адбываецца цяпер. Як і ў часы СССР, прыхаджане зноў вымушаныя змагацца. Напэўна, незалежная Беларусь карыстаецца метадамі савецкай улады, што ўсё павінна дасягацца толькі праз змаганне.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №20

Падпісана да друку 13.04.2018. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.